# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 30 (2276) 23 ліпеня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.)

## ОРШЫ—925 ГАДОЎ




**У пачатку ліпеня адбылося свята Оршы.**
**Урачыстасці, прысвечаныя 925-годдзю горада, пачаліся з асвячэння замчышча — месца заснавання горада. Праграма свята ўключала тэатралізаванае прадстаўленне, канцэрты самадзейных і прафесійных артыстаў, пад музыку духавых аркестраў у розных канцах горада танцавалі і сівыя ветэраны, і юныя пары. На «Кірмашы рамёстваў» бойка гандлявалі самабытнымі вырабамі з лазы, гліны, льну народныя ўмельцы, выхаванцы прафесійных вучылішчаў горада.**
**У госці да аршанцаў прыехалі вядомыя пісьменнікі, артысты, кампазітары Рэспублікі Беларусь. Вялікім гала-канцэртам і факельным шэсцем закончыліся ўрачыстасці ў старажытным горадзе на Дняпры.**
**НА ЗДЫМКУ: замчышча—месца заснавання горада.**

**(Заканчэнне фотарэпартажу змешчана на 4-й стар.).**

*НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎ*

# АД СВАЁЙ ДУШЫ НЯМОЖНА ПАЗБАВІЦЦА

**Васіль Мельяновіч, амерыканскі бізнесмен, сёлета ў маі пабываў па справах сваёй фірмы ў Мінску. Каля двух тыдняў ён напружана працаваў, ездзіў па Беларусі, сустракаўся з нашымі парламентарыямі, адказнымі работнікамі, кіраўнікамі прадпрыемстваў, творчай інтэлігенцыяй. Пад канец свайго візіту ён згадзіўся даць інтэрв'ю.**

*— Спадар Мельяновіч, мяркуючы па прозвішчу, а таксама па гаворцы, вы беларус. Не памылілася?*

— Я, Васіль Мельяновіч — самы што ні ёсць сапраўдны беларус, сын кулака Пятра Мельяновіча з вёскі Азярніца, што непадалёк ад Лунінца. Прыехаў сюды, на сваю Бацькаўшчыну, як прадстаўнік амерыканскай фірмы, якая мае намер распачаць на Беларусі свой бізнес. Фірма мяркуе таксама адкрыць тут сваю галоўную кватэру. Для амерыканскага бізнесу Беларусь вельмі прыцягальная. Ёю цікавяцца прадпрымальнікі з захаду Амерыкі. Але Беларусь для іх зусім невядомая краіна. Яны не ўяўляюць, у чым вы маеце патрэбу, што вам прапанаваць, што тут можна набыць. Так што я буду памагаць амерыканскім бізнесменам у наладжванні дзелавых кантактаў.

З другога боку, я мяркую адкрыць у Мінску ўласную фірму — беларуска-амерыканскую інфармацыйную службу. Хачу праз гэту фірму памагаць беларусам асвойваць азы бізнесу, менеджменту. Збіраюся паспрыяць таму, каб маладыя прадпрымальнікі змаглі паехаць павучыцца ў Амерыцы, набыць практычны вопыт, а таксама наладзіць тут лекцыі, выкладаць для маладых, якія збіраюцца сур'ёзна заняцца бізнесам. Усё гэта цяпер вельмі патрэбна незалежнай Беларусі. Але мая мара — гаварыць да іх па-беларуску, і толькі. Бо я не хачу ні па-руску, ні па-ангельску. Нашто нам? Ёсць беларусы на эміграцыі, якія могуць прыехаць сюды, чытаць такія лекцыі.

Ужо сёлета мы павінны накіраваць сюды амерыканскі бізнес і капітал, альбо адкрыць тут незалежны самастойны бізнес, альбо зрабіць сумесную суполку з беларусамі, карацей — адчыніць дзверы для амерыканцаў.

Беларусь не мае сёння капіталу, валюты. Сітуацыя склалася так, што ўсе 11 будынкаў у Вашынгтоне Расія трымае пад сваім флагам. Ні беларусы, ні ўкраінцы не атрымалі нічога з таго, што было набыта за грошы колішняга СССР, а туды ж усе рабілі свой уклад. Амерыканскія газеты, прынамсі, пра тое пішуць. А між тым Беларусь не мае будынка для свайго пасольства. Выйсце знайшлося, праўда. Амерыканцы прадаставілі будынак пад беларускае пасольства ў Вашынгтоне, а беларусы ў абмен — для амерыканскага ў Мінску.

*— Ваш візіт быў паспяховы?*

— О, так. Я меў сустрэчы ў Брэсце з абласнымі кіраўнікамі і таксама тут з некаторымі камерцыйнымі людзьмі. Яны памаглі мне лепш зарыентавацца ў сітуацыі. Я і сам заўважыў, што ў кіраўнічых структурах ідзе глухое супраціўленне працэсу рэформ, штучна стрымліваецца, тармозіцца прыватызацыя. У дзяржаўных структурах людзі моцна трымаюцца за крэсла, бароняць у першую чаргу сябе, сваю работу, якую яны могуць страціць з пачаткам прыватызацыі. Натуральна, яны бароняць свае пазіцыі. Можа для іх гэта і добра, але для беларускага народа і яго будучыні — кепска.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

*З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ*

**Непрадузяты староннi назіральнік не без здзіўлення сёння прыкмеціць: чым болей імкнуцца пазбавіць наша грамадства ад сіндрома калектыўнасці, тым хутчэй ім авалодвае комплекс нейкай стыхійнай стаднасці. Адвярнуўшыся ад камуністычных ідалаў, яно з такой жа лёгкасцю пакланяецца новым, можа, рынкавым, ці як іх назваць, ідалам.**

**З'яўляецца на экране цяпер ужо далёка вядомы псіхатэрапеўт Анатоль Кашпіроўскі, і ўся краіна (цяпер—Садружнасць) прылепліваецца да тэлевізара ў надзеі на цудоўнае пазбаўленне ад любой немачы. Узяўся нейкі мудрэц пастаўляць нашай прэсе непальскі гараскоп на тыдзень, і ўся Беларусь ганяецца за нумарам той газеты, дзе надрукаваны прароцтвы ўсходняга штукара.**

**А апошнім часам рэспубліка зведвае нашэсце розных місіянераў і прапаведнікаў. Ну, яшчэ можна зразумець, калі з суседняй краіны, а то пруцца аж з-за акіяна—прыязджаюць прапаведнікі амерыканскія, канадскія ды іншыя. І кожны нешта абяцае: адзін—сапраўднае спасціжэнне Бога, быццам няма ў беларусаў сваёй веры і сваіх святароў, другі—збаўленне ад хваробаў і пакут, быццам мала нам Кашпіроўскага з Чумаком ды радзімых экстрасенсаў разам з бабкамі-шаптухамі.**

**І людзі ідуць на сталічны стадыён, як гэта было ў Мінску 11—14 ліпеня, дзе выступаў канадскі евангеліст Пітэр Юнгрэн, валам валяць на заморскага прапаведніка, бо там здзяйсняюцца цуды. Глухі пачынае чуць, невідушчы бачыць, калека кідае мыліцы і пачынае сам хадзіць.**

**Вось толькі дзіўна, чаму ў нас не змяншаецца, а павялічваецца колькасць злачынстваў, чаму стан здароўя нацыі выклікае заклапочанасць і трывогу!**



**НА ЗДЫМКУ: канадскі евангеліст Пітэр ЮНГРЭН і яго беларуская паства.**

**Фота В. СТАВЕРА.**

АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА



**14 ліпеня 1992 года ў Гервятах Астравецкага раёна адбылася сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча і Старшыні Вярхоўнага Савета Літоўскай Рэспублікі Вітаўтаса Ландсбергіса.**

**Абмяркоўваўся цэлы комплекс пытанняў, што закранаді адносіны двух суседніх дзяржаў, праблемы нацыянальных меншасцей — беларусаў у Літве і літоўцаў у Беларусі.**

**НА ЗДЫМКУ: С. ШУШКЕВІЧ і В. ЛАНДСБЕРГІС за сталом перагавораў у Гервятах.**

СЛАВУТЫ ЗЯМЛЯК

## БАРЫС КІТ НА РАДЗІМЕ

**Акадэмік Сусветнай акадэміі астранаўтыкі, вядомы матэматык Барыс Кіт быў прыняты днямі міністрам замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пятром Краўчанкам.**

Прыемна, што прэзідэнт асацыяцыі астранаўтыкі Германіі, прафесар універсітэта ў Франкфурце-на-Майне, аўтар шэрагу буйнейшых навуковых работ Барыс Кіт выхадзец з Беларусі. У ходзе сяброўскай гутаркі з міністрам замежных спраў вучоны выказаў гатоўнасць у бліжэйшы час з цыклам лекцый па астранаўтыцы і матэматыцы ў вышэйшых навучальных установах рэспублікі, усяляк садзейнічаць развіццю міжнародных сувязей Беларусі ў галіне навукі і тэхнікі.

Як паведамілі ў МЗС Беларусі, цесныя кантакты з сусветна прызнаным вучоным, які карыстаецца вялікім аўтарытэтам сярод беларускай дыяспары за рубяжом, будуць у многім садзейнічаць хутчэйшаму пераадоленню доўгай гістарычнай паласы ўзаемнай адчужанасці беларусаў, раздзеленых між сабой у розны час лёсам і гісторыяй.

ЛЕТНІ АДПАЧЫНАК

## ВЫБАЧАЙЦЕ, КАЛІ ЛАСКА

Генеральны дырэктар Мінскага абласнога турысцка-экскурсійнага вытворчага аб'яднання «Мінсктурыст» Уладзімір Кушчыенка просіць прабачэння ва ўсіх, каму давялося і прыйдзецца даплачваць нейкую суму за ўжо выкупленыя ў яго фірмы пуцёўкі ў санаторыі і дамы адпачынку былога СССР. «Мы не ў сілах абараніць нашых кліентаў у той сітуацыі з турызмам, якая склалася,— апраўдваецца дырэктар аб'яднання.— Кіраўніцтва краін СНД узнімае цэны на розныя паслугі, прадукты харчавання, чыгуначны і авіятранспарт. Прычым робіць гэта, як гаворыцца, сёння на сёння. Таму ў любы момант уладальнікі гасцініц могуць прад'явіць нам, пасрэднікам, дадатковы рахунак, які мы абавязаны аплаціць. Уладальнікам пуцёвак, у сваю чаргу, даводзіцца альбо ўносіць дадатковую плату, альбо скарачаць час свайго знаходжання на адпачынку».

МІГРАЦЫЙНАЯ СЛУЖБА

## АБАРАНІЦЬ БЕЖАНЦАЎ

У Беларусі створана дзяржаўная міграцыйная служба. З гэтай прычыны на чарговым пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў прынята спецыяльная пастанова. Рашэнне прадыктавана тым, што ў рэспубліцы рэзка павялічылася колькасць бежанцаў. Толькі за апошні час з Прыднястроўя, Закаўказзя і іншых «гарачых» кропак у Беларусь прыбыло больш за паўтары тысячы чалавек.

З мэтай рэгулявання гэтага працэсу, а таксама абароны правоў бежанцаў, мігрантаў і членаў іх сямей, забеспячэння занятасці працаздольнага насельніцтва пры Дзяржкампрацы ўтворана дзяржаўная міграцыйная служба.

*«Рэспубліка Беларусь дакладна вызначыла сваё месца ў будучай архітэктуры еўрапейскага будынка. Гэта развіццё ва ўмовах бяз'ядзернага статуса і нейтралітэту. Не ключавым элементам з'яўляецца стварэнне бяз'ядзернага пояса ў цэнтры Еўропы, які ахопліваe Скандынаўскія краіны на поўначы, Прыбалтыку, а таксама дзяржавы Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. У імя дасягнення гэтай мэты мы гатовы актыўна ўзаемадзейнічаць з нашымі еўрапейскімі партнёрамі. У геапалітычным плане нас абавязвае да гэтага цэнтральнае становішча ў еўрапейскай прасторы і наша каардынуючая роля ў Садружнасці Незалежных Дзяржаў.*

*Цвёрда стаўшы на шлях дзяржаўнай незалежнасці, Рэспубліка Беларусь мысліць сваю будучыню ў агульным ключы агульнаеўрапейскага дэмакратычнага працэсу. Будучыня Еўропы і свету ў цэлым бачыцца нам не ў ГЕАПАЛІТЫЧНЫМ, а ў ГЕАГУМАНІТАРНЫМ вымярэнні, не ў грамадствах МАС, а ў грамадствах АСОБ, калі чалавек — мэта, а не сродак пераўтварэнняў, не аб'ект маніпуляцый, а творца і стваральнік.*

*Захаванне правоў чалавека і забеспячэнне адкрытасці і транспарэнтнасці ў гэтай галіне мы лічым адной з важнейшых гарантый стабільнасці і бяспекі ў Еўропе. Менавіта непавага да чалавечай годнасці, парушэнне свабоды асобы эдольны стаць і прычынай, і вынікам рэгіянальных канфліктаў, якія парадкаюць практычна ўсю гаму парушэнняў правоў чалавека — ад уніжальнага, бяспраўнага становішча бежанца да грэбавання самім правам на жыццё».*

*(З выступлення С. ШУШКЕВІЧА, Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, на нарадзе кіраўнікоў дзяржаў — удзельніц нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (НБСЕ) 10 ліпеня 1992 года).*

МІЖНАРОДНЫЯ ВЫСТАЎКІ



**Дзве міжнародныя выстаўкі прайшлі адначасова ў інстытуце навукова-тэхнічнай інфармацыі на праспекце Машэрава. На адной з іх сусветна вядомая фірма ЗША—Японія—Індыя «Рэнк Ксеракс» шырока прадставіла капіравальна-размнажальную тэхніку, лазерныя прынтэры, тэлефаксы.**

**Зацікаўленыя асобы і арганізацыі змаглі набыць усё гэта абсталяванне за даволі нізкі кошт, а таксама зрабіць заказы на пастаўку тэхнікі, узоры якой прысутнічалі на выстаўцы ў якасці чарцяжоў, вопісаў, макетаў і малюнкаў.**

**Другую выстаўку-кірмаш арганізавала польская фірма «Войтэкс». Дырэктар яе Варшаўскага аддзялення Станіслава Шыманская расказала:**

**— У мяне была даўняя мара правесці тут кірмаш. Хаця Мінск і Варшава—суседзі, так здарылася, што мы аб'ехалі, бадай, паўсвета, перш чым трапілі ў ваш горад.**

**Ад Осла да Йаханесбурга, ад Варшавы да Токіо пралеглі маршруты міжнародных выставак-кірмашоў з удзелам нашай фірмы. Мы правялі чатырнаццаць кірмашоў у Расіі, на Украіне, на Каўказе, на Узбекістане, нават ля падножжа піка Камунізму...**

**Праз нейкі час, да свайго здзіўлення і радасці, я даведалася, што там, дзе мы пабывалі, адкрыліся гандлёвыя фірмы, ідэю нараджэння якіх падказаў наш кірмаш. Дарэчы, на адной з міжнародных выставак у Парыжы мы пазнаёміліся і з кіраўніком агенцтва інтэлектуальнай уласнасці «ІВЮР» Юрыем Іванюўскім з Мінска, які і садзейнічаў нашаму прыезду сюды.**

**Абагулены вопыт работы папярэдніх кірмашоў мы паспрабавалі рэалізаваць на мінскім, які стаў не толькі буйнейшым па маштабах з усіх, што праходзілі на тэрыторыі СНД, але і самым цікавым, дзелавым.**

**Паралельна з паказам тавараў, тэхналогій, прадукцыі кааперацыі мы наладзілі выстаўку калекцый адзення, абутку, біжутэрыі, польскай касметыкі. Запрасілі юрыстаў, якія аказалі кваліфікаваную дапамогу ў заключэнні дагавораў. Дзелавая Польшча зацікаўлена ў наладжванні новых шматлікіх кантрактаў, якія выгадны ўсім партнёрам.**

**НА ЗДЫМКУ: у зале, дзе праходзіла выстаўка фірмы «Рэнк Ксеракс».**

ГРАМАДСКАЯ ДУМКА

## ШТО НАМ НАКАНАВАНА

Якой вы бачыце Беларусь праз 10 гадоў? Такое пытанне задала прадаўцам, пакупнікам, рабочым, заказчыкам—словам, тым, хто называе сябе беларускім народам, сацыялагічная служба інфармацыйнага агенцтва «БелаПАН». Такой жа, як сёння, бачаць рэспубліку ў бліжэйшай будучыні чвэрць апытаных; 23 працэнты назвалі радзіму краінай «трэцяга свету», якая вечна будзе мець патрэбу ў дапамозе; 8 працэнтаў выказаліся даволі аптымістычна: высокаразвітая краіна, з якой прыйдзецца лічыцца Еўропе і свету; не змаглі адказаць 22 працэнты рэспандэнтаў.

Цікава, што пераважная большасць апытаных назвалі існуючы ў Беларусі лад «перыядам падрыхтоўкі ад невядома чаго да невядома да чаго» і не задаволены палітыкай, праводзімай цяперашнім парламентам.

СУПРАЦЬ ЗЛАЧЫННАСЦІ

## РАТАВАЦЦА САМІМ

Зарэгістравана новая грамадская арганізацыя—асацыяцыя «Насельніцтва за бяспеку». Яе заснавальнікамі сталі трыццаць фізічных асоб, у ліку якіх намеснік старшыні Мінскага гарвыканкома Уладзімір Ярмошын, загадчык юрыдычнага аддзела Мінгарвыканкома, старшыня Пастаяннай камісіі гарсавета па ахове правапарадку і пытаннях барацьбы са злачыннасцю Андрэй Харлап, іншыя. Мэты асацыяцыі—стварэнне ахоўных структур, вытворчых паслуг і прадпрыемстваў праваахоўнага накірунку. Гарвыканком выдзеліў ужо са свайго бюджэту 10 тысяч рублёў для «Насельніцтва за бяспеку», астатнія сродкі будуць складацца з грашовых узносаў членаў асацыяцыі, дабрачынных ахвяраванняў і з прыбыткаў вытворча-гаспадарчай дзейнасці. У новую асацыяцыю ўступілі ўжо шэраг дзяржаўных і недзяржаўных прадпрыемстваў, жыхары Мінска.

КРЫМІНАЛЬНАЯ СТАТЫСТЫКА

## ЗЛАЧЫННАСЦЬ РАСЦЕ

Толькі па лініі крымінальнага вышуку за першае паўгоддзе ў Беларусі зарэгістравана 38 тысяч 115 злачынстваў, што на 27.7 працэнта больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года. Назіраецца бурны рост найбольш цяжкіх відаў: разбойных нападаў, забойстваў, рабаўніцтваў, згвалтаванняў... Так, калі летась за 6 месяцаў было ўчынена 260 разбойных нападаў, то ўжо сёлета—349, на 35,2 працэнта вырасла колькасць рабаўніцтваў.

НАДВОР'Е І ЎРАДЖАЙ

## ШТО ЗБЯРОМ?

Да сярэдзіны ліпеня на Беларусі ўсё гарэла і ў прамым, і ў пераносным сэнсе: стаяла гарачае, сухое надвор'е. Пажаўцелі да спякоты палі, палягчэлі каласы, прывяла гародніна.

За чэрвень і першую дэкаду ліпеня выпала толькі ад 10 да 30 працэнтаў ападкаў ад звычайнай для гэтай пары нормы. Гэта не магло не адбіцца на ўраджаі.

На стану на першае чэрвеня і азімыя, і яравыя давалі падставы разлічваць на ўраджай 29—31 цэнтнер з гектара. Але, як паінфармаваў намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення па вытворчасці і перапрацоўцы прадукцыі раслінаводства Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання А. Карабач, цяпер карціна на хлебным полі рэзка змянілася. Паводле папярэдніх ацэнак, новы ўраджай складзе 22—24 цэнтнеры з гектара. Валавы збор зерня з плошчаў, што захаваліся, чакаецца ў межах 5,5—6 мільёнаў тон. Гэта на 1,5—2 мільёны тон менш, чым летась.

Будзе яўны недабор і льновалакна, і льносемя, бо лён у благім стане—нізкарослы і рэдкі.

НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎ

# АД СВАЁЙ ДУШЫ НЯМОЖНА ПАЗБАВІЦЦА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

*— Напэўна, для ажыццяўлення вашых планаў існуе занадта шмат праблем?*

— Справа ў тым, што законы вашыя нядобрыя, каб рабіць лучнасць камерцыйную. Я тут бачу, што па тэлебачанні многа гаворыцца — ого! — і тыя прыехалі, і гэтыя. Але гаворка, ведаеце, як тая абяцанка-цацанка... Законы ж не гарантуюць праву ўласнікаў. Каб заходні капітал сюды прыйшоў і яму гарантыя была, што людзі будуць мець заработак, могуць вывозіць яго за граніцу, што замежныя бізнесмены будуць гаспадарамі купленых імі будынкаў. У нас амерыканцы, калі едуць за граніцу, маюць права купляць там нейкую маёмасць. Яны плацяць падатак дзяржаве, але маюць і права прадаць будынак, калі захочуць. У вас, як я бачу, гэта вельмі слаба. Ваш парламент слаба рухаецца ўперад. Прыватызацыі ў вас амаль ноль. Усе рэспублікі былога СССР, а таксама краіны былога сацыялістычнага блока пайшлі ўперад, а Беларусь адстае. Расія, напрыклад, заваліла Амерыку студэнтамі, менеджэрамі, бізнесменамі. Іх поўна. Для іх распрацаваны праграмы нашых універсітэтаў. Яны паспяхова вучацца. А з Беларусі, як мне стала вядома, усяго два студэнты! Хіба ва ўрада няма цікавасці вучыць людзей? Чаму дзяржаўныя людзі не думаюць пра будучыню? Не трэба сябе супакойваць тым, што Беларусь цяпер чуецца лепш, чым іншыя рэспублікі былога СССР. Неабходна ўжо сёння, цяпер дбаць пра індустрыю, каб мець капітал, каб даваць работу, каб не было беспрацоўя. Гэта надзвычай важна. Каб не паўтарыць памылак Польшчы, дзе ўрад не думаў наперад. Заўтра можа быць вельмі дрэнна на Беларусі, бо зямля не аддаецца людзям, маёмасць не прадаецца і не перадаецца. Тут усё яшчэ дзяржаўнае. Няма ніякіх прыватных бізнесаў. І гэта бачаць нашы прадпрымальнікі, якія хацелі б укласці ў эканоміку Беларусі свой капітал, але яны лічаць за лепшае мець лучнасць — бізнес да бізнесу, а не бізнес да дзяржавы.

*— А хто вы па спецыяльнасці?*

— Я доўгі час працаваў інжынерам-механікам, пасля менеджэрам. Восем год выкладаў некаторыя курсы па менеджменту ў амерыканскіх коледжах і універсітэтах. Таму, як спецыяліст, я, можа быць, бачу Беларусь зусім іншымі вачамі, чым беларусы з літаратурных мастацкіх колаў нашай эміграцыі.

*— Якія пытанні вы абмяркоўвалі ў нашым парламенце?*

— Я меў сустрэчы прыватнага характару з некаторымі членамі парламента, з прадстаўнікамі апазіцыі. На жаль, я не змог сустрэцца са спадаром Шушкевічам... Але я маю ўяўленне пра тое, што адбываецца ў вышэйшым заканадаўчым органе ўлады Беларусі і чаму так цяжка бывае зрушыць справу з месца. Я жахнуўся, калі даведаўся, што некаторыя парламентарыі проста не прыходзяць на пасяджэнні, не выконваюць свае абавязкі. Ціхі сабатаж. У нас такога проста не можа быць. Усе мусяць прысутнічаць, а як не хочуць — то гэтых некарысных людзей раз-два — і выкінуць на выбарах.

*— З кім вы мяркуеце супрацоўнічаць?*

— Ёсць з кім. Тут нямала людзей, якія маглі б і хацелі б хутчэй паставіць Беларусь на ногі. Шмат маладых, нават былыя партыйныя людзі, якія ёсць шчырыя беларусы, не саромеюцца сваёй мовы, ганарацца беларускасцю. А старэйшым, напэўна, трэба адысці ад спраў, каб не нарабіць шкоды, яе і так многа зроблена. Я ўжо маю з некаторымі маладымі людзьмі неафіцыйныя дагаворы, што яны будуць прадстаўляць тут маю фірму. А як будзе ўсё добра — працаваць будзем разам. З часам, як усё ўладзіцца, мы і дагаворы падпішам. Але ж першы крок ужо зроблены. І я задаволены візітам. А таксама тым, што пабачыў людзей, якія сапраўды аддадзены Беларусі.

*— Ці думалі вы, што ў такой сістэме, якая тут існавала, нешта беларускае можа захавацца?*

— Калі сказаць шчыра, то мы, беларускія эмігранты, якія мусілі па палітычных матывах пакінуць Беларусь, меркавалі, што ўсё беларускае на Беларусі загінула. Але, як я цяпер бачу, не, не загінула. Мы, старэйшыя, нават вельмі здзіўленыя, што ёсць маладыя, энергічныя людзі, якія любяць і ведаюць Беларусь не меней, чым мы. Мы шмат пацярпелі за Беларусь, а яны змагаюцца яшчэ і цяпер за нашу беларускую справу, за нашу мову і культуру, за яе адраджэнне.

*— А ці ездзілі вы ў сваю Азярніцу? Якое засталося ўражанне?*

— Цяжкае. Дарэчы, у мінулы свой прыезд у 1988 годзе, калі я быў у Мінску з амерыканскай выстаўкай, мне было адмоўлена ў магчымасці пабываць у роднай вёсцы. Я быў вельмі засмучаны. Ну, а гэтым разам праблем не было. Прыехаў я ў Азярніцу, паглядзеў, як жывуць людзі, і страх мяне ўзяў, у якім занядпадзе ўсё. У вёсцы ў нас была вялікая хата — дык цяпера ка ў ёй школа. Другую хату, дзе размяшчалася малачарня, развалілі, штось дабудоўваюць, а трэцяя хата малая была — у ёй майго бацькі брат жыў. Стаяла яна, як памятаю, сярод лесу, я любіў малым гуляць там. Следу не засталося. Усе хаткі ў вёсачцы пагнілі, усяго пару мураваных дамкоў ёсць. У некаторых вокны забітыя, дзверы заколачаныя. Кажуць, што ў іх ніхто не жыве.

Людзі, маладзейшыя за мяне на 20 гадоў, выглядаюць зусім нямоглымі, спрацаванымі. Гэта паказвае, што яны цяжкае жыццё мелі.

Паехалі на рэчку, дзе я некалі малым гуляў. Дно, памятаю, было бачна, назіраў, як жабкі ўсплываюць. А цяпер там нейкая брудная канава. Магілы ж дзеда і сваякоў ледзь адшукалі. Пытаюся ў цётак — яны цяпер бабулькі: чаму не глядзелі родныя магілы? Тыя кажуць, што быццам баяліся чысціць і глядзець магілы «ворагаў народа», бо непрыемнасці мелі б. Яны яшчэ ў страху жывуць, не давяраюць пераменам. А чаму? Таму што хто сядзеў ва ўрадзе, той і сядзіць, хто кіраваў калгасамі і саўгасамі — яны і цяпер кіруюць. І ў іхняй вёсцы нічога не змянілася. Я з гонарам расказваю цёткам, што Беларусь сваё пасольства ў Амерыцы ўжо мае. А яны мне адно: «Васілька, а мы ж не ведаем». Нічога не ведаюць гэтыя няшчасныя, забітыя людзі. Нават тое, што жывуць у небяспечнай для здароўя экалагічнай зоне, у якую ператварылася Палессе пасля Чарнобыля. Кажуць, што чулі, быццам нейкая праблема з радыяцыяй ёсць, але ж жывуць, як быццам нічога не здарылася, усё, што вырошчваюць, ядуць, гадуюць унукаў. Як і чым бараніць сябе ад чарнобыльскай халеры, не ведаюць. Бо ніхто ім не растлумачыў. Хаця там ёсць мясціны, дзе небяспечна ўвогуле жыць.

*— Спадар Мельяновіч, па вашых словах я разумею, што вашая сям'я моцна пацярпела ад савецкай улады. Вы ж, напэўна, ведаеце, што дзякуючы прапагандзе, само слова «кулак» асацыіравалася ў свядомасці некалькіх пакаленняў савецкіх людзей з вобразам жорсткага эксплуататара, крывасмока, ворага народа. Але ж вы, я адчуваю, з гонарам кажаце пра тое, што былі сынам кулака. Раскажыце, калі ласка, пра сваю сям'ю.*

— Я нарадзіўся ў 1934 годзе ў Заходняй Беларусі, якая была тады пад Польшчай. У школу пайшоў, як Саветы прыйшлі. Добра помню такі эпізод: прыходжу раз на заняткі з торбачкаю, а мяне не пускаюць, кажуць: ты сын кулака. І не дазволілі вучыцца. (Тады якраз заходнікаў пачалі раскулачваць). Я не ведаю, ці так было ў цэлай Беларусі, але ў нас так. Хто даў такі загад, таксама не ведаю. Але кляймо «кулацкі сын» зачыніла перада мною дзверы школы.

Сям'я ў нас была вялікая і працавітая. Дзед і яго браты, іхнія дзеці зямлю апрацоўвалі разам, а не кожны свой кавалак. Яны не такія ўжо і заможныя былі, за польскім часам хіба болей падкупілі зямлі. Працавалі сумленна, грошы складалі — не прапівалі, не прагульвалі. Трохі падсабралі і малацілку набылі з маторам. Спадзяваліся, што будуць гаспадарыць на зямлі, якую палілі сваім потам. У 1939 годзе, як прыйшлі Саветы, нас амаль адразу пачалі раскулачваць. Брата майго дзеда ў Сібір выслалі, дзеда пачалі на допыты цягаць. Іншых таксама мучылі. Бацька хаваўся, яго ў хаце сцераглі, каб злавіць. Уся наша сям'я была гатова да таго, што нас вось-вось вышлюць у Сібір. Усталі аднойчы мы раніцай, а ў суседа ў хаце дзверы, вокны адчынены, і нікога... Найлепшыя працаўнікі тады згінулі. Дзядзька Міхаіл, сасланы ў Сібір, там і загінуў, дзеда майго да смерці замучылі на допытах. А ў адной цёткі муж быў забіты партызанамі за тое, што быў солтысам у вёсцы ў час нямецка-фашысцкай акупацыі Беларусі. Хаця той за польскім часам падтрымліваў камуністычную партыю. Дарэчы, у часе вайны многія з нашай вялікай сям'і загінулі.

Паратунку для нас і пасля вайны не было б на радзіме. Ратуючыся ад тэрору савецкай улады, многа беларусаў, падобна нам, выехала падчас вайны ў эміграцыю, бо ведалі, што іх чакае. Калі ты не падтрымліваў савецкую ўладу — то быў вораг. Прывешвалі нам ярлык нацыяналістаў толькі за тое, што хацелі чуцца беларусамі.

*— Скажыце, а як склаўся лёс вашай сям'і ў эміграцыі?*

— Нам было вельмі цяжка ў Нямеччыне. Дзякуй Богу, што не трапілі ў канцэнтрацыйныя лагеры. Некаторых беларусаў спасцігі такі лёс. Пра гэта, дарэчы, зусім не пісалася ў вас. Я і мая сястра ледзь не памерлі з голаду. Каб атрымаць пайку хлеба, супу, я мусіў працаваць ад 6—7 гадзін раніцы і да вечара. Немцы лічылі нас рабамі, ставіліся горш, чым да сабак. Калі прыйшлі амерыканцы, яны выратавалі нас. У Амерыцы я і мае сваякі здабылі адукацыю. Амерыка шмат чаго дала нам. Яна дала нам мажлівасць ісці ўперад, як розум дыктуе, і асвету здабыць, і работу па душы. Мы гэты шанц скарысталі: маем свае будынкі, хаты, грошы, цэрквы. Ніхто нам не перашкаджаў, наадварот, стараліся зразумець нашы цяжкасці. Мы сталі моцна на ногі, дзеці — усе мае чатыры дачкі — атрымалі добрую адукацыю, скончылі універсітэты.

Сярод эміграцыі беларусаў менш, чым рускіх, палякаў, украінцаў. Але нашы маладыя людзі болей, чым яны, імкнуцца здабыць асвету. У палітычных сферах беларусы не такія моцныя. Нашы людзі некалі кіраваліся на дактароў, інжынераў, такую і асвету здабывалі. Але памаленьку і да палітыкі далучаюцца.

Жывучы ў амерыканскім грамадстве, я стаў амерыканцам: працую ў амерыканскіх палітычных структурах, належу да рэспубліканскай партыі. З'яўляюся кіраўніком Беларуска-амерыканскай федэрацыі, цяпер, праўда, не так актыўна працую, як раней, бо заняўся праблемамі амерыканска-беларускай эканамічнай лучнасці.

*— Мне вельмі цікава пачуць ад вас, нашага суайчынніка, меркаванне аб амерыканцах. Што ў сабе вы лічыце спецыфічна амерыканскім?*

— Усе грамадзяне Амерыкі вераць у вольнасць і ў Бога. Усе людзі там ведаюць, што маюць права верыць у таго Бога, у якога хочуць. Мы шануем адзін аднаго, а рэлігія ў нас не злучаная з урадам. Талерантнасць нас выдзяляе. Праблемы ёсць і ў Амерыцы, гэта не рай зямны. Але ёсць мажлівасць выбару — маральнага, палітычнага, псіхалагічнага. Гэта ёсць багацце Амерыкі. Бо такі падыход да жыцця дае мажлівасць стаць тым, кім хочацца. Я хацеў бы, каб так было і на Беларусі. Яна, дарэчы, заўсёды была талерантная. У мяне ў сям'і бацька быў праваслаўны, і дзед праваслаўны, баба была баптыстка, і майго бацькі малодшы сын стаўся баптыстам. Усе яны мірна жылі ў адной хаце.

*— Як жа вам удалося захаваць сваю беларускасць у Амерыцы?*

— Пасля вайны мая сям'я жыла ў польскім лагеры, я там хадзіў у польскую школу, пазней выехалі ў беларускі лагер, там пачаў займацца ў беларускай пачатковай школцы. Не ўмеў па-беларуску нават добра гаварыць. Ну і далей перайшоў у беларускую гімназію ў Міхельсдорфе. Менавіта гэта гімназія паставіла на ногі беларускую эміграцыю. Тыя людзі, што выкладалі там, былі самаахвярнымі беларусамі. Яны перадалі вучням усю сваю любоў да Беларусі, далі веды па гісторыі, літаратуры, геаграфіі, выхавалі пачуццё годнасці і нацыянальнай самасвядомасці. Чыталі з захапленнем Купалу, «Новую зямлю» Коласа, Багдановіча. З намі займаліся такія выдатныя асобы, як Наталля і Аляксандр Орсы, паэтка Арсеньева, дзядзька Міцкевіч, брат Коласа, спадары Муха і Акаловіч. Асабліва ўдзячнасць у душы я захаваў да Наталлі Орса, якая была не толькі выдатным знаўцам роднай мовы і літаратуры, але і педагогам. Акрамя ўсяго, яна вяла ў нас драматычную студыю. Усё гэта пакінула у юнай душы вельмі глыбокі след.

Такім чынам, як вы бачыце, я застаўся ў душы беларусам, хаця і лічу сябе амерыканцам. Разумееце, ад сваёй душы няможна пазбавіцца.

*— Бацькаўшчына вас і цяпер трымае?*

— Безумоўна. Хаця я хлапцом паехаў з Беларусі. Пакрыўджаным, перапужаным. Але прыгажосць прыроды, бачаная мною ў тыя гады ў родных краях, адбілася ў памяці. Распеўная беларуская мова, якой карысталіся ўсе ў нашай «кулацкай» сям'і, зберагла любоў да Беларусі. Я ніколі не забудуся аж да смерці, што я ёсць беларус, і буду імкнуцца як найболей прыязджаць сюды, быць тут, спатыкацца з людзьмі, быць карысным для Беларусі, дапамагаць ёй.

Адна ў мяне ёсць мара: каб можна было мець падвойнае грамадзянства, я б узяў беларускі пашпарт. І ганарыўся б тым, што я беларускі грамадзянін, таксама як і тым, што амерыканец. Калі такое здарыцца, і будзе такі закон, гэта станецца як комін над хатаю.

**Гутарыла Таццяна АНТОНАВА.**

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# КАПІТАН БРЫГА «МЕРКУРЫЙ»

У апошні год маёй службы ў арміі мне вельмі пашанцавала — атрымаў пуцёўку на ваенную турбазу ў Севастопаль. Пад'язджаў да яго, і сэрца замірала. Не ад таго, што мяне, як і іншых, усё прываблівалі і прываблівалі, угледаючыся ў твар і ў фотаздымкі на дакументах. Што ні кажыце, я пад'язджаў да горада, геройчная слава якога вядома на ўвесь свет. Прыехаў я загадзя, меў вольны час і, каб не марнаваць яго, пачаў аглядаць выдатныя мясціны Севастопаля. Як водзіцца, на Прыморскім бульвары сфатаграфаваўся ля помніка затопленым караблям, а потым і не заўважыў, як ногі вынеслі мяне на Матроскі бульвар. Мой позірк спыніўся на сціплым, але надта выразным помніку:

**КАЗАРСКОМУ**
**Потомству**
**в**
**пример**

Надпіс на ім, які я перанёс у блакнот, падаўся мне надта ж лаканічным. Колькі ні напружваў памяць, але пра Казарскага нічога не мог згадаць, проста не ведаў.

Гасцінныя і ветлыя севастопальцы расказалі мне, што гэта першы помнік, які быў збудаваны ў горадзе ваеннай славы, што пастаўлены ён у гонар капітан-лейтэнанта Аляксандра Іванавіча Казарскага і экіпажа брыга «Меркурый».

— Узведзены гэты помнік на асабістыя сродкі ваенных маракоў. А яго архітэктурны праект зрабіў брат славутага мастака А. Брулоў, — тлумачыў мне ветэран, на грудзях якога красаваліся ваенныя ўзнагароды, і дадаў: — Між іншым, Казарскі родам аднекуль з Беларусі.

Хутка каля помніка сышлося шмат людзей, і ўсе яны гаварылі так гучна, што ўжо нічога разабраць было немагчыма. Толькі зразумеў, што раней гэты бульвар называўся Мічманскім, што адкрыты помнік у маі 1834 года, што фашысты апаганілі яго ў Вялікую Айчынную вайну. Помнік А. Казарскаму і яго экіпажу быў адрэстаўраваны ў 1948 годзе.

У бліжэйшую нядзелю пайшоў у Марскую бібліятэку і пачаў збіраць звесткі аб сваім земляку. Перад ад'ездам я яшчэ схадзіў да помніка і ўсклаў да яго кветкі. Абышоў яго, угледаючыся ў дэталі манумента з крымбальскага каменю. Верх яго ўвенчаны антычным грэчаскім ваенным суднам-трырэмай. На адным баку пастамента помніка — барэльеф Аляксандра Казарскага, на трох іншых — багіня перамогі Ніка, Нептун і ўладыка дарог Меркурый.

Да маіх кветак, убачыў, далучыўся яшчэ букет. Яго клапатліва ўскладала жанчына з хлопчыкам гадоў дзесяцідзесяці...

З той пары мяне неадчэпна праследавала думка: трэба ж так, што ў горадзе рускай славы першы помнік збудаваны нашаму земляку. Я пачаў збіраць матэрыялы аб адважным марскім афіцэры. Яго прозвішча занесена амаль ва ўсе энцыклапедыі, а таксама ў «Военно-Морской Словарь». Адзіная тут разбежка — у «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі». Калі ва ўсіх навуковых выданнях надрукаваны год нараджэння А. Казарскага — 1797, то беларуская энцыклапедысты «амаладзілі» яго на год — 1798.

Нарадзіўся Аляксандр Іванавіч у мястэчку Дуброўна (цяпер горад і раённы цэнтр у Віцебскай вобласці). Яго дом стаяў на беразе ракі. Рос Аляксандр дапытлівым і моцным, хутчэй за ўсіх пераплываў Дняпро. Аднойчы прыехаў яго дзядзька са сталіцы, і паехаў ён разам з ім у далёкі маларасійскі горад Нікалаеў вучыцца ў штурманскім вучылішчы, якое паспяхова закончыў у 1813 годзе.

У семнаццаць гадоў стаў Казарскі мічманам. У 1814 годзе атрымаў прызначэнне ў Дунайскую ваенную флатылію. У 1826 годзе Аляксандр Іванавіч стаў камандзірам брыга «Сапернік». Патрабавальны больш да сябе, уважлівы да падначаленых, малады камандзір адразу заслужыў любоў і павагу сярод маракоў. Усё гэта было падмацавана глыбокім веданнем сваёй справы, эрудыцыяй сапраўднага марскога спецыяліста.

[Заканчэнне на 7-й стар.].

ХТО ДАПАМОЖА ЗАМЕЖНАМУ СУАЙЧЫННІКУ

## ЧАРНОБЫЛЬЦЫ КРАСНАЯРСКАГА КРАЮ

Дарагая рэдакцыя газеты «Голас Радзімы»! Звяртаецца да вас жыхар Краснаярскага краю, Хакаскай ССР, п. Майна Венскі Іван Браніслававіч, член створанага ў горадзе Саянагорску таварыства «Саюз Чарнобыль». У нас узнікае шмат праблем і пытанняў па перасяленцах, якія прыбылі да нас на пастаяннае пражыванне з месцаў, што апынуліся пад экалагічным забруджаннем ад вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Як беларус па нацыянальнасці, які дасканала ведае родную мову, я разумею боль у душы сваіх землякоў, якія вымушаны былі пакінуць свае родныя мясціны. І вось, каб людзі, якія прыйшлі да нас у саюз, крыху маглі зблізіцца адзін з адным, зразумець і абмеркаваць свае праблемы, льготы, што прадастаўляюцца законам РФ, мы і стварылі «Саюз Чарнобыль». У саюзе ёсць свой статут. Ёсць савет нашага саюза. Дарагая рэдакцыя, мая просьба да вас невялікая, але вельмі патрэбная як для маёй работы ў савеце, так і для маіх землякоў. Я хацеў бы, каб вы прыслалі на мой адрас карту рэспублікі Беларусь, на якой было б указана экалагічнае забруджанне населеных пунктаў, а Гомельскай вобласці асабліва. Жыхары гэтай вобласці ёсць у нашым саюзе, але карыстаюцца льготамі вельмі малымі.

**Іван ВЕНСКІ.**

Краснаярскі край.

## НАС АБРАЗІЛІ НЯЎВАГАЙ

Шаноўныя суайчыннікі!

Пішу аб тым, чаго больш не маю сілы трымаць у сабе. Ва ўсіх былых рэспубліках Саюза, зараз незалежных дзяржавах, ідзе фарміраванне ўзброеных сіл. Уласную армію жадае мець і наша родная Беларусь. Справа, безумоўна, вельмі пільная і патрэбная. Нашыя хлопцы будуць служыць сваёй Радзіме, і гэта вельмі радасна адчуваць. Але за межамі Беларусі зараз знаходзяцца хлопцы, якія былі пакліканы ў рады УС СССР у лістападзе 1990 года і ў маі 1991 года. Ведаю, што ў Вярхоўным Савеце Беларусі абмяркоўвалася пытанне аб вяртанні іх на радзіму, але пытанне гэтае так і засталося ў паветры. Яшчэ больш дзіўным гэта здаецца на фоне дзеянняў ўрада Рэспублікі Украіна па хутчэйшаму вяртанню салдат-украінцаў дахаты. Ці ж мы не грамадзяне Беларусі?

Я праходжу службу ў Казахстане на касмадроме Байканур, якім, як вядома, дамовіліся супольна карыстацца Расія і Казахстан. Казахстан пачаў стварэнне сваёй арміі, і прэзідэнт Нурсултан Назарбаеў стаў на чале ўсіх вайсковых адзінак на тэрыторыі рэспублікі. Дык каму ж мы служым?

З гэтага ўсяго атрымліваецца, што ўрад Беларусі здрадзіў салдатам-беларусам і іх бацькам. Чаго ж каштуе такі ўрад, і якой падтрымкі ён можа чакаць ад тых, каго абразіў няўвагай.

Прашу надрукаваць мой ліст. Можа, гэта ў якім-небудзь сэнсе дапаможа зноў узняць пытанне. Хаця надзеі амаль няма.

З павагай да вас радавы

**Уладзіслаў СЕХ.**

Байканур.
Жыве Беларусь!



# ОРШЫ—925 ГАДОЎ

**Гады, тым больш стагоддзі, многае сцерлі, не данеслі да нас усю гісторыю гэтага горада. Сёлета Орша адзначыла сваё 925-годдзе. Ці ж дакладная гэта дата!.. Вядома, не. Бо праведзеныя раскопкі сцвярджаюць, што людзі тут жылі яшчэ ў каменным і бронзавым вяках. Але нават і тыя скупыя звесткі, з летапісаў, дакументаў, навуковых прац, данеслі да нас нямала падзей пра гэты цудоўны беларускі горад, які па сваіх памерах хоць і ўступае іншым, але па вядомасці пераўзышае нават некаторыя абласныя цэнтры.**

**Успомнім, напрыклад, летапіс, які апавядае пра аршанскіх купцоў, што водным шляхам, па Дняпры, спускаліся ў «заморскія краіны гандаль спраўляць». Ці тое, як Аляксандр Неўскі прасіў дапамогі ў нашых землякоў у час барацьбы са шведамі і крыжакамі.**



**На жаль, трымаць меч у руках аршанцам прыходзілася вельмі часта. І не іх віна ў гэтым. Як бачым, горад налічвае многія стагоддзі, але паспрабуйце прайсціся па яго вуліцах, і вы не заўважыце ніводнай старой пабудовы. Руска-польская вайна XVII стагоддзя, нашэсце французаў у 1812 годзе, нарэшце Вялікая Айчынная вайна (ды і іншыя) дашчэнту зруйнавалі горад. Але кожны раз ён уставаў з руін, адбудоўваўся.**

**Аб мінулым, гістарычным шляху апавядаюць толькі помнікі і музеі, значныя сярод якіх з'яўляюцца мемарыяльны комплекс «Кацюша», узведзены ў гонар знакамітых рэактыўных мінамётаў, залпы якіх упершыню прагрымелі тут у сорак першым, і музей легендарнага дзядзькі Косці — Канстанціна Заслонава, камандзіра партызан, героя апошняй вайны.**

**У другой палове дзевятнаццатага стагоддзя ў Оршы быў пабудаваны буйны чыгуначны вузел. Менавіта дзякуючы гэтаму тут стала развівацца прамысловасць. У рэспубліках былога Саюза ды і за мяжой добра ведаюць вырабы станкабудаўнічага завода, завода лёгкага машынабудавання і асабліва льнокамбіната. Калі сюды прыязджае экскурсія, то аршанцы заўжды прыводзяць такі прыклад: тканіна, якую выпусціў камбінат, можна аперазаць па экватары зямны шар дзесяткі разоў!**

**Адно засмучае. Па колькасці прамысловых прадпрыемстваў Орша ўступае хіба што Віцебску. А гэта прывяло да пагаршэння экалагічнага становішча ў горадзе. Зона адпачынку, створаная на беразе Дняпра, на жаль, не вырашае праблему.**

**А вось апошняя і вельмі прыемная навіна. Ля Оршы маркуецца здабываць золата. Вядома, гэта не нейкі там Кландайк, але ж наша, першае і адзінае на тэрыторыі Беларусі золата. Так што да гісторыі горада дадаецца яшчэ адзін значны штрышок.**

**НА ЗДЫМКУ: у час святкавання юбілею.**

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**



# МІНСК

## БЕГЛЫ АГЛЯД СУЧАСНАГА СТАНУ МІНСКА

Ул. СЫРАКОМЛЯ



У гэты час, пра які ідзе гаворка, у суседнія камяніцы з карысцю для горада і правінцыі віленскія выдаўцы паны Завадскі, Аргельбранд і Рафаловіч прывозяць свой інтэлігентны тавар; скрозь віднеюцца вялізныя афішы новых польскіх выданняў, мясцовы люд паволі хінецца да чытання і нятлумным, спакойным, але пастаянным наведваннем кнігарняў гарантуе прыезджым бібліяфілам пэўны збыт тавару. Гаворым — нятлумны, бо гэта, уласна, характэрная рыса Мінска, у якім нідзе не бывае тлумна. Вялізны натоўп люду расплываецца па шырокіх вуліцах і плошчах. Толькі ў вечар шабашу па цяснейшых вуліцах раіцца ізраільскае племя, а яго лепшая частка, шумная, паднядзеленая, ідзе прагульвацца ў грамадскі парк, на Высокі рынак, або на бульвар Новага горада. Але і тут хіба што толькі па адным баку плошчы, вытаптаныя прахожымі сцежкі, бо ў цэнтры тае ж плошчы бачылі мы ў маі жаўнераў, якія самым наіўным чынам касілі траву і скідалі ў капу сена.

Да галоўнейшых гарадскіх гмахаў, апроч будынкаў гімназіі, суда, тэатру і іншых, пра якія ўпаміналася вышэй, належаць яшчэ камяніцы паноў Кістара, Дэльпачэ і мешчаніна Гайдукевіча, у якіх размешчаны дваранская зала, ваенны шпіталь другога класа, збудаваны ў 1844 годзе, гарадскі лазарэт на тры аддзяленні на Траецкай гары (адзін аддзел перароблены з кляштару базыліянак у 1844 годзе). Усе гэтыя будынкі робяць гонар архітэктурнай славе і густу згаданага ўжо будаўніка, калежскага саветніка, пана Казіміра Хрышчановіча. Напраўду цудоўная гэта рэч: увекавечыць сваё імя ў складзеных па-мастацку радах цаглін, парадавацца ў душы, што і ты прычыніўся да аздобы места і выгоды бліжніх.

Без дастатковых матэрыялаў не можам гаварыць пра рух гандлю як унутранага, так і знешняга. Больш заможныя тутэйшыя купцы гандлююць у глыбінцы краю і за мяжою збожжам і лесам, якіх дастаткова дае ўрадлівая перыферыя. Мясцовы гандаль рэпрэзентуюць 423 купецкія крамы пры дамах. Мы ўжо згадвалі найбольш значныя. Да іх ліку трэба яшчэ дадаць склад тавараў Гурвіна, склад сукна і корту Рапапорта і некалькі іншых. Звесткі за 1843 год, якія падае цытаваны ўжо артыкул з газеты Міністэрства ўнутраных спраў, сведчаць, што да 1-й гільдыі купецтва належыць 15 чалавек, да 2-й—25, да 3-й—198. Там жа прыводзіцца лічба фабрык і прадпрыемстваў: іх у горадзе — 17. Кааператыўны гандаль праходзіць на пяці рынках, з якіх Высокі, Нізкі, Рыбны — брукаваныя, а рынасная плошча на Траецкай гары і Гандлёвы рынак (у Новым горадзе) яшчэ ў першапачатковым стане. Тое, што ўжо было заўважана ў Вільні, можа быць дастасавана і да Мінска: пераважная большасць шыльдаў — на магазінах строяў, він і піва. Гаворачы пра ўстановы такога тыпу, немагчыма не сказаць пра вельмі добры рэстаран пана Цыбульскага на Высокім рынку, а таксама пра цукерню пана Эйснера на вуліцы Саборнай, у якой, апроч більярду, ёсць два цудоўныя салоны і ў адным з іх — багатая бібліятэка мясцовых і замежных газет.

Адкладваючы на наступны раздзел агляд Божых святыняў, могільнікаў і духоўны бок жыцця горада, папоўнім наш нарыс пералікам важнейшых паркаў. Натуральна, што першае месца займае тут Губернатарскі парк, названы так у гонар свайго заснавальніка, губернатара Захара Карнеева. Парк закладзены быў каля 1800 года. Гэтая прыгожая мясціна займае вялізную плошчу — ацяняюць яе высокія густалістыя бярозы і ліпы, утвараючы над шырокімі алеямі такое суцэльнае скляпенне з галля і лісця, што нават у летні пагодны полудзень сонца, толькі дзе-нідзе крадком прадзіраючыся тонкім праменьчыкам, усцілае сцежкі ўзорыстым рухомым дываном. Рака Свіслач праплывае пасярэдзіне парку, цудоўныя сенажаці аздабляюць яе берагі; дзе-нідзе дрэвы стаяць купамі, а дзе-нідзе адкрываецца від альбо на прыгожае прадмесце Ляхаўка, альбо на горадскі поле. Памятаем, што ў маленстве нашым бачылі мы тут цудоўныя клумбы кветак, сцежкі былі старанна высыпаныя.

Сёння з-за горшага догляду гэтае месца пазбаўлена мастацкага аздаблення; але паспяшайма заўважыць, што ад таго месца гэтае характва свайго не толькі не траціць, але нават штосьці набывае, дзякуючы невялікаму запусценню: прырода выяўляе тут свой цудоўны непаўторны воблік, пазбавіўшыся строгасці, якую насаджаў густ XVIII стагоддзя. Аднак жа галоўныя алеі захоўваюцца ў чысціні і парадку. У пэўныя дні ў парку іграе музыка — і людзі, што летнімі і вясновымі вечарамі тут гуляюць, відаць, любяць гэтую мілую мясціну, з разуменнем прымаюць дэвіз, які губернатар Карнееў напісаў некалі на адной з паркавых пірамід:

«Пасля працы—адпачынак».

Добра блукаць па гэтых цёмных алеях у ранішні час, калі нікога няма. І вечарам, калі скрозь шмат людзей, заходзіў я часам сюды для вывучэння мясцовага духу. Цяжка было часоваму госцю спасцігнуць яго як належыць, а таму занатоўваю тут свае беглыя ўражанні. У такім горадзе, як Мінск, большасць насельніцтва якога складаюць чыноўнікі, не ўдалося пачуць размовы сярод мужчын пра літаратуру, тэатр, эканоміку; толькі моладзь больш свавольна, чым віленская, распавядала пра каханне, а людзі старэйшыя гаварылі пра судовыя працэсы, следствы і г. д. Мінскімі мужчынамі і жанчынамі надаецца большая ўвага строям, але тутэйшая прыгожая палова мае на тое сваё бясспрэчнае права, бо — прабачце нам, мілыя жыхаркі Гедымінавага места!— Мінск адносна свайго насельніцтва можа пахваліцца вельмі значнаю колькасцю цудоўных дзявочых вочак. Разумею, што галава менш цвярозая, чым наша, што сэрца, менш загартаванае сталасцю, маглі б тут проста не ўстаяць, але што датычыць нас... вернемся да статыстыкі.

Апроч саду, названага Архірэйскім, які заклаў колькі гадоў таму назад архібіскуп грэка-расійскі Міхаіл, з густам аздобіўшы яго лістоўніцамі і рэдкімі гатункамі дрэў і кветак,— Мінск налічвае 18 прыватных садоў і 239 агародаў.

### II

### СВЯТЫНІ — КАПЛІЦЫ — МОГІЛЬНІКІ.— ВАНДРОЎКА ДА КАЛЬВАРЫІ

Толькі беглы позірк можам кінуць на тутэйшыя святыні, бо занадта мала часу мы тут былі, не ў стане ўсюды зазірнуць і ўсё агледзець. Добра разумеем патрабавальнасць чытача, адчуваючы важнасць гэтых апісанняў. Дык здзейснім жа, што зможам.

З мноства старажытных каталіцкіх святынь у Мінску засталося ўсяго толькі тры ў горадзе і дзве на гарадскіх могілках. Найзнакаміцейшая з іх — езуіцкі касцёл, цяперашні кафедральны. Стаіць ён, мабыць, на тым месцы, дзе Уладзіслаў Ягайла заклаў першую каталіцкую святыню. У палове семнаццатага стагоддзя аселі тут езуіты, але набажэнства сваё адпраўлялі ў драўлянай капліцы — аж да 1700 года, у якім і пачалі ўзводзіць муры гэтага касцёла. Праз дзевяць гадоў яго асвяцілі. Святыня гэтая не была пышная, бо, незалежна ад даволі багатых ахвяраванняў, што адусюль прыбывалі і ўзрасталі, Мінская езуіцкая калегія не належала да самых знакамітых. У сярэдзіне мінулага стагоддзя ледзьве налічвала 15 асоб, у тым ліку 5 прафесараў.

Даволі сціплы касцёл, хоць і пабудаваны на відным месцы Высокага рынку, страляе ўгору дзвюма гатычнымі чатырохбаковымі, на чатыры ярусы, вежамі, а на плошчу выходзіць як бы ўнутранай галерэяй, ці калідорам, сцены якога складаюцца з жалезных кратаў. У сярэдзіне ў ім змрочна, але не настолькі, як бывае ў большасці езуіцкіх касцёлаў. Забіраюць касцельную плошчу тоўстыя калоны, пры якіх размешчаны алтары, па-за калонамі ёсць дзве бакавыя капліцы. Налева — св. Тройцы, направа — св. Феліцыяна-пакутніка. Фундатарам першай, яшчэ за езуіцкім часам, быў троцкі ваявода Цыпрыян Павел Бжастоўскі, які памёр у 1689 годзе, фундатарам другой — мінскі ваявода Крыштаф Завіша (1713 год). Касцёл гэты пасля скасавання ордэна езуітаў у 1773 годзе быў заменены на парафіяльны, а ўжо пры расейскай уладзе ў выніку ўказа Паўла І ад 28 красавіка 1798 года ўдастоены высокай годнасці кафедральнага.

Першым мінскім біскупам быў прызначаны Якуб Дадэрка, віленскі прэлат, кавалер ордэна св. Станіслава. Але перад самым заснаваннем Мінскай парафіі кафедральны касцёл стаў ахвяраю пажару ў палове 1797 года. Згарэла значная частка касцёльных рэчаў, што засталіся ад езуітаў; ацалелі толькі абразы; цела св. Феліцыяна перанеслі ў касцёл бенедыкцінак. Біскуп Дадэрка адразу ж пасля свайго ўступлення ў сан узяўся за адбудову касцёла, часткова з дапамогаю ўраду і прыватных ахвяраванняў, часткова на ўласныя грошы. За няпоўныя пяць гадоў не толькі адбудаваў яго, але і аздобіў. Спачатку, у 1779 годзе, адна капліца св. Феліцыяна, а пазней, у 1800 годзе, і ўвесь касцёл былі ўжо адчынены для набажэнства.

Дакладна не памятаю, у якім стане быў кафедральны касцёл у Мінску перад яго цяперашнім аднаўленнем, але пра гэта мне расказаў наш мастак пан Адам Шэмеш, які падчас апошняга нашага гасцявання згадзіўся таварышаваць у нашых вандроўках, а пасля даслаў асобную нататку пра тутэйшыя святыні. Вось яго ўражанне пра адбудову касцёла біскупам Дадэркам:

«Дзіўнае ўяўленне меў гэты чалавек аб харастве і дасканаласці Божай святыні. Усё скляпенне ва ўсіх трох нішах загадаў ён замаляваць абразамі ці сімваламі з Новага Запавету: сярэдзіну займае як бы купал з калонамі, але яны так невыразна адмаляваны, што ні на кога не робяць уражання. Усе гэтыя малюнкі на сценах выканаў мастак Анташэўскі, найлепшы на той час у Мінску. Дадэрка паўсюль пакінуў поўна розных надпісаў, то рэлігійных і містычных, то з мэтаю ўласнага самаўсхвалення. Ягоны партрэт у поўны рост змешчаны ў прэсбітэрыум, другі, меншы — у закрыстыі. Усюды было шмат галерэек, упрыгажэнняў, нейкіх аксамітных фіранак, усюды панавала стракатасць, вока не мела на чым адпачыць, скрозь Дадэрка панавешваў бліскучых шкляных жырандоляў. У якім жа стылі было гэтае аднаўленне? Цяжка вызначыць. Хіба, можа, назваць яго ўласна «Дадэркаўскім»!

Дадамо, што такая стракатасць колераў дзіўна адбіваецца і ад нізкай падлогі, і ад змрочных сцен касцёла. Што ж да жывапісу — першае месца займаюць тут чатыры арыгіналы Чаховіча і адна ўдалая копія з яго.

Ахарактарызуем жа іх падрабязна, спасылаючыся на меркаванне пана Шэмеша, тым болей аўтарытэтнае, што той, хто яго выказвае, сам знакаміты мастак і сумленны чалавек, вольны ад дробязных поглядаў, якімі так часта кіруюцца нашы творчыя людзі.

Найперш заслугоўвае ўвагі абраз святога Язэпа, змешчаны ў прэсбітэрыум, памерам, знешнім выглядам, каларытам падобны да абраза ў Віленскім кафедральным саборы, які наш вядомы Вільчынскі размножыў у прыгожых паштоўках.

«Аблічча святога звернута да гледача: выраз яго пачцівы і лагодны, вельмі адпаведны характару апекуна Божага сына. На яго руцэ — дзіця, якое трымае лілею, сімвал святога Юзафа. На пярэднім плане, злева ад цэнтральнай фігуры,— дзіця-анёлак з малітоўна складзенымі ручкамі, тварам звернутае да святога. Направа, крыху ў глыбіні, кленчыць малы анёлак у белым убранні. Уверсе таксама анёлак і пару галовак даволі паспалітых херувімаў. Вельмі каштоўны абраз і, пэўна, ні ў чым не ўступае таму, які ёсць у Вільні, і да таго ж добра захаваны».

На касцельнай калоне, з левага боку, прыцягвае да сябе ўвагу абраз святога Яна, работа таго ж майстра. Святы Ян глядзіць на распяцце, якое трымае ў руцэ, з выразам спакою і шчырай набожнасці на твары. Анёл, які прыкленчыў побач, у адной руцэ трымае ключ, палец другой рукі прыкладзены да вуснаў. Гэта надзіва прыгожая дзіцячая постаць, зусім не падобная да тых пульхнашчокіх анёлаў, якія анічога не значаць і якіх часта сустракаем нават на абразах Чаховіча. У глыбіні відаць мост, з якога каты скідаюць у раку святога. Абраз гэты значна пашкоджаны, а што яшчэ горш, шмат разоў рэстаўраваны. На шчасце, твар святога, правая рука з крыжам і анёлак з ключом цалкам захаваліся.

Ідэнтычная памылка (паўтор аднае і тае ж постаці на адным і тым жа палатне) сустракаецца яшчэ раз. Заўважаем яе, калі глядзім на абраз святой Барбары, якая вылучаецца на першы план прыгожаю і шляхетнаю постаццю; яна з келіхам у руцэ, у чырвоным плашчы, у светла-блакітнай сукні, у катурках на нагах,— а ў глыбіні яна, ужо лежачы на зямлі, прымае з рук каплана святое прычасце. Гэтая постаць на другім плане дастаткова выразная, каб не параўнаць яе з постаццю на пярэднім плане. Згаджаюся з панам Шэмешам, што такія анамаліі і залішняя завершанасць другога плану сведчаць не пра памылкі Чаховіча, а пра яго залішняе захапленне традыцыямі сярэдневечнага рэлігійнага мастацтва. Абраз відавочна пашкоджаны: падзёрты пасярэдзіне. Можа, па гэтай прычыне ён і павешаны занадта высока.

І, нарэшце, вельмі добрая копія з Чаховіча: святы Тадэвуш, «постаць адметная свабодаю і спакоем, з надзіва прыгожым абліччам. Гэты святы падобны з твару да Хрыста, з светлымі валасамі і невялічкаю бародкаю. У руцэ ён трымае цяслярскую лінейку, каля ягоных ног абломкі цэглы, але не руіны, а як бы нешта яшчэ недабудаванае».

Працяг. Пачатак у № 29.

*АКТУАЛЬНАЕ І СЁННЯ*

**Вяртаюцца народу імёны, каштоўнасці, суцэльны малавядомы мацярык айчыннай культуры. І нават у тым, што здавалася вывучаным да драбніц, адкрываецца незнаёмае. Такой старонкай беларускай літаратуры да нядаўняга часу была публіцыстыка Янкі Купалы рэвалюцыйнага перыяду. Прапануем увазе чытачоў адзін з артыкулаў Янкі КУПАЛЫ.**

# НЕЗАЛЕЖНАЯ ДЗЯРЖАВА І ЯЕ НАРОДЫ

Калі мы зірнём у нядаўнюю мінуўшчыну вялікіх дзяржаў, як, напрыклад, царская Расія, імператарская Нямеччына і інш., а таксама калі возьмем за прымер цяперашнія некаторыя дзяржавы, хоць бы — Англію, Японію і ім падобныя, то мы бачым адно, што гэтыя дзяржавы ў сваім імперыялістычным і мілітарным усёзніштажаючым паходзе мелі адну ярка зарысаваную мэту — гэта заграбіць як найболей пад сваё каршуновае крыло чужых малых народаў і падняволіць іх сваёй нацыі, свайму дзяржаўнаму правапарадку.

Гэтак Расія падняволіла сабе агнём і жалезам слабейшыя суседнія народы, пачынаючы ад манголаў, каўказцаў, фінаў, літвінаў і канчаючы славянамі — палякамі, украінцамі, беларусамі і іншымі. Тое самае рабіла Нямеччына з палякамі, эльзасцамі ды ўсялякімі заморскімі калёнямі. Таксама Англія жалезнымі абцугамі трымала пры сабе Ірландыю, афрыканскія народы і г. д.

Не пыталіся гэтыя ўсемагутныя дзяржавы, ці заваёваныя імі слабейшыя народы хочуць іх, сказаў бы, воўчай апекі, ці не. Дужыя, не пытаючыся, забіралі ў слабейшых усё, што маглі толькі забраць, а давалі ім, не пытаючыся, тое, чаго яны не заўсёды хацелі прымаць. Забіралі ў падняволеных народаў іх дабро, забіралі іх сыноў і гналі на крывавы бой за эгаістычныя вялікадзяржаўныя мэты. А давалі, гвалтам накідалі ім свае так званыя «культуры», пры помачы якіх душылі ў падняволеных народаў іх нацыянальныя асаблівасці, іх веру, праўду... Прышчэплівалі ім з малых дзён думку, што не права пануе над сілай, а сіла над правам.

Прымерам такога здзеку, такога зневажання дужэйшым слабейшага можа служыць добра ўсім нам знаёмая царская Расія. Стагнаў татарын, грузінец, фін, паляк, украінец, беларус. Стагнала ўся «руская» зямля, шалёна п'яная: разбушаваная, захліпаючыся «чырвоным смехам», Расійская імперыя, імперыя, магутная закованымі народамі, заграбленымі чужымі дзяржавамі. «Быть по сему», казаў Петраград. І... было.

І вось, калі ўдумацца ва усё гэта, то мы ўбачым, што кожная такая дзяржава, якая на рахунак чужых зямель хоча пашырыць сваё панаванне, ніколі не будзе спрыяць для народа гэтых забраных зямель. І якімі прыгожымі ні прыкрываліся б словамі вялікадзяржаўныя нацыі, што ў іх ёсць ці там будзе заведзена нейкае раўнапраўе для ўсіх нацыянальнасцей, — усё гэта будзе абманам.

Толькі тыя, што вызваляюцца з-пад чужой няволі, дзяржавы змогуць ушанаваць права так званай меншасці нацыянальнай, бо яны на сваіх плячах вынеслі чужы здзек і паніжэнне. Да гэтага давяла доўгая практыка гістарычнага развіцця народаў і дзяржаў.

Кінуты нядаўна амерыканскім прэзідэнтам лозунг — мір на аснове самаазначэння народаў — не быў выдуманы так сабе. Думка гэта ўжо даўно жыла і развівалася на цэлым свеце, і за сваю незалежнасць шмат малых народаў ваявала ці то словамі, ці сталлю. Узяць хоць бы бураў: цэлы год гэты маленькі народ мучыў сваім жаданнем незалежнасці вялікую Англію.

І вось мы, беларусы, гаворачы аб сваёй дзяржаўнай незалежнасці, не павінны абходзіць моўчкі таго балючага пытання, як гэта мы, атрымаўшы сваю дзяржаўнасць, будзем меркавацца з чужымі нам па нацыянальнасці людзьмі, якія жывуць на беларускай зямлі.

Ужо адно тое, што мы дамагаемся быць самі гаспадарамі толькі таго абшару, дзе жывуць беларусы ў яго этнаграфічных межах, — ужо гэта даводзе, што мы падняволіць нікога не думаем.

Будучы дагэтуль паднявольнымі і паспытаўшы, што за смак гэтае падняволле, само сабой разумееца, нам і ў думку не прыйдзе запрагаць каго б то ні было, жывучага на нашых загонах, у паднявольнае ярмо.

Тыя шчыра дэмакратычныя думкі, лунаючыя яснымі красамі па цэлым свеце, аб волі, роўнасці, братачнасці, бадай, найглыбей запалі і западаюць у нашы гаротныя душы і сэрцы. Бо ці ж знойдзецца на свеце болей дэмакратычны па сваёй прыродзе і ўжыўчывы народ, як народ беларускі? Сама натура, сама яго гісторыя сталеццямі гэтакім ужо выгадавала.

У нашым краю шмат жыве палякаў, расійцаў, жыдоў, татараў. Лепшыя з гэтых людзей даўно ўжо прыйшлі да пераканання, што свабодны беларус у сваёй незалежнай дзяржаве будзе куды прыхільней адносіцца да іх, чымся беларус, падняволены чужынцам. У нявольніка заўсёды ёсць больш помства нянавісці к другім, чымся ў чалавека вольнага.

Дзеля гэтага вось права нацыянальнай меншасці павінна стаяць у нас нараўне (прапарцыянальна) з правам нашай берускай большасці. Кожны грамадзянін нашага краю павінен карыстацца і з роўнай пашаны, з роўнай абароны ў вачах права свету.

Ва ўсіх дзяржаўных і грамадскіх установах, пачынаючы ад дзяржаўнага сойму і нацыянальнага войска і канчаючы мясцовымі і валаснымі самаўрадамі, — павінны мець сваё месца і нацыянальныя меншасці, разумеецца, як ужо і зазначана, прапарцыянальна беларускай большасці.

У вольнай, незалежнай Беларускай дзяржаве не павінна быць «ні эліна, ні іудзея».

Усе роўныя перад дзяржаўнай уладай, усе роўныя перад правам і законам, усе вольна развіваюць сваю нацыянальную культуру і самабытнасць і кірюцца ў сваёй грамадзянскай працы дабрабытам агульнай бацькаўшчыны-Беларусі.

**К-а.**
**Газета «Беларусь», 29 лістапада 1919 года.**



# ПОМНІК УЛАДЗІМІРУ КАРАТКЕВІЧУ

**Асобу Уладзіміра Караткевіча і яго ролю ў нашым жыцці мы аценілі толькі тады, калі яго не стала. А можа ўсё было не так! Мы любілі яго, разумелі яго непаўторнасць і велічнасць, але не асмеліліся сказаць пра гэта гучна і рашуча, бо пісьменнік сваёй нацыянальнай самабытнасцю, дасведчанасцю, замілаваннем да мінуўшчыны свайго краю не падабаўся тым, хто «кіраваў» пры яго жыцці беларускай культурай. Калі выйшла цудоўная кніжка У. Караткевіча «Зямля пад белымі крыламі», газета «Голас Радзімы» друкавала раздзелы з яе, суправадзіўшы аўтарскім уступам. За свой «смелы» ўчынак мелі заўвагу і незадаволенасць галоўліта. Ці не таму толькі сёлета ў Оршы, на радзіме пісьменніка, адкрыты помнік аўтару «Дзікага палявання караля Стаха», «Каласоў пад сярпом тваім», «Чорнага замка Альшанскага»... Зноў ёсць падстава сказаць, што надта марудна ўсведамляем мы сябе народам.**

**НА ЗДЫМКУ: фрагмент помніка Уладзіміру КАРАТКЕВІЧУ ў Оршы.**

**Фота. В. АЛЯШКЕВІЧА.**

*БЕЛАРУСКІ МАСТАК, ЯКІ ЖЫВЕ Ў РЫЗЕ*

# ВЯРТАННЕ НА БАЦЬКАЎШЧЫНУ

У Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі адкрылася выстаўка карцін Вячаслава Целеша.

У гісторыі сусветнай культуры ёсць шмат прыкладаў, калі чалавек па нейкіх прычынах адарваны ад сваёй бацькаўшчыны, народа. Аднак маюцца і такія прыклады, калі ён не можа і не хоча зусім адарваць свае карані, бо яны жывяць яго творчасць, узбагачаюць духоўна. Адзін з такіх — Вячаслаў Целеш, беларускі мастак, які жыве ў Рызе.

Нарадзіўся В. Целеш у 1938 годзе ў Красным Сяле на Гродзеншчыне. Моцная любоў да малявання ў школьныя гады і вызначыла яго жыццёвы шлях. Але беларуская правінцыя не давала яму магчымасці набыць веды ў авалоданні законамі малюнка і жывапісу. І калі ў 1961 годзе В. Целеш быў прыняты ў мастацкую студыю А. Петэрсона ў Рызе, ён зразумеў, што толькі прафесіянальная падрыхтоўчая праца і мастацкае асяроддзе дадуць магчымасць выйсці на гэты шлях і прынясуць добрыя вынікі. У 1964 годзе В. Целеш паступае на падрыхтоўчыя курсы Латвійскай акадэміі мастацтваў, дзе працуе пад кіраўніцтвам М. Карнецкага. Яго ўпартасць і адданасць прыносяць плён: у 1970 годзе ён стаў студэнтам педагагічнага аддзялення акадэміі, дзе яго настаўнікамі былі вядомыя майстры латышскага мастацтва прафесар К. Убанс, Э. Грубэ, Э. Ілтнерс і інш. А над дыпломнай карцінай «Сустрэчы» ён працуе пад кіраўніцтвам прафесара Эдуарда Калныньша. Пасля заканчэння ў 1975 годзе вучобы ў акадэміі частыя летнія паездкі В. Целеша ў санаторый Тэрветэ падмацоўваюць яго не толькі фізічна, але і духоўна збліжаюць яго з прыродай. Тэрветэ знаходзіцца ў самым жывапісным месцы Зэмгаліі (паўднёвая частка Латвіі), дзе кожны куточак з векавымі хвоямі і ялінамі, гарыстымі краявідамі прываблівае мастака, прымушае брацца за пэндзаль і фарбы. Тут ім напісана шмат эцюдаў і карцін. Кожны прыезд у Тэрветэ заканчваецца выставай у санаторыі. Менавіта тут у 1976 годзе экспанавалася яго першая персанальная выстава. З творамі жывапісца знаёміліся і жыхары наваколляў Тэрветэ, персанальныя выставы мастака адбыліся ў сельскім Доме культуры і ў горадзе Добеле.

Жывапісныя працы В. Целеша прыцягваюць рэальнасцю, матэрыяльнасцю рэчаў і танальнай разнастайнасцю навакольнага свету. Калі пасля заканчэння акадэміі ў яго карцінах можна было заўважыць найбольшы ўплыў традыцый латышскага жывапісу, то ў апошніх працах палітра становіцца ярчэйшай, колер больш дэкаратыўным, што характэрна для яго беларускага ўспрымання колеру. У працах мастака выразна дамінуе малюнак, які вызначае рытміку каляровых плям, кампазіцыю і эмацыянальнае гучанне.

У адносінах да жанру прываблівающь пейзажы і нацюрморты В. Целеша, а таксама партрэт. Мастак імкнецца выявіць сябе і ў гістарычнай карціне на тэму даўніны і гісторыі беларускага народа. Адно з асноўных месцаў тут займаюць вобразы славутых людзей Беларусі: першадрукар і медык Францішак Скарына, пісьменнік і драматург В. Дунін-Марцінкевіч, паэты Максім Багдановіч і Янка Купала.

Адначасова В. Целеша захапляе і графіка, у якой ён найбольш акцэнтуе складаную рытміку чорна-белых плям і ліній. Так у 1983 годзе нарадзіўся цыкл «Касмічныя шляхі», прасякнуты фантазіяй мастака, а ў 1989—1990 гадах сатырычны цыкл «У ценю часу трыумфаў». Асобнае месца ў яго творчасці займае экслібрыс, які прываблівае не толькі гармоніяй плям і ліній, але і цікавай кампазіцыяй, у якой найменшымі сродкамі раскрываецца спецыфіка кніжнага знака і адпаведнасць інтарэсам уладальніка кожнай графічнай мініяцюры. Працы Вячаслава Целеша экспанаваліся не толькі на рэспубліканскіх выставах Латвіі і Беларусі, ён удзельнік вернісажаў у Эстоніі, Літве, Фінляндыі, Швецыі, Даніі, ЗША і Канадзе. Лірызм і настраёвасць у творах В. Целеша прываблівающь мецэнатаў і аматараў мастацтва, таму яго пейзажы, нацюрморты, партрэты, графічныя лісты і экслібрысы былі набыты і захоўваюцца ў зборах Латвіі, Беларусі, Расіі, ЗША і Канады.

Свае веды мастак перадае ў Рызе Беларускай дзіцячай мастацкай студыі «Вясёлка». Ён з'яўляецца старшынёй Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі «Маю гонар».

**Ю. ШОСТАК,**
**старшы навуковы супрацоўнік Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея.**

## НАДРУКАВАНА Ў «ПОЛЫМІ»

# «МЫ Ж НА КРАІ БЫЦЦЯ...»

У «Літаратуры і мастацтве» — лісты з трывожнай інтанацыяй «Адродзімся ці не?» Інтанацыя (сумная, шчырая!) усё часцей гаворыць пра духоўны Чарнобыль. У «каўбасна-гарэлачнай» чарзе выразна чуваць: «Абрыдла дэпутацкая балбатня...» Палкоўнік з дзвюма вышэйшымі адукацыямі (сустрэўся ў камандзіроўцы): «Апазіцыя?.. А што яны дадуць, акрамя мовы?!»

**Беларускі народ,**
**Мы ж на краі быцця,**
**Кожны дзень, кожны год**
**У нас меней жыцця!**
**Трэ прычасце святое,**
**Бо ўжо дух заняло,**
**А мы енчым зноў тое:**
**«Абы горш не было».**

У расійскай літаратуры здавён афіцэрства выказвала свае думкі, пачуцці вершаваным радком, у прозе і публіцыстыцы. І калі ўжо лейтэнанты-капітаны адкладвалі ўбок зброю і марнелі над чыстым аркушыкам паперы, то гаварылі, выказваліся да донца праўды. Мае сваіх афіцэраў і чысцюткае, праўдзівае беларускае слова. Балючая франтавая лірыка Пімена Панчанкі, трывога за нацыянальную годнасць вуснамі капітана Сяргея Панізніка, вяртанне да родных вытокаў у паэзіі Кастуся Ільюшчыца, боль за вёску ў публіцыстыцы Васіля Ткачова, у яго прозе і ў драматургіі... І разам з тым — пастаянны канфлікт-разрыў, а следам і маўчанне замест таго, каб дапамагчы разглядзець, разабрацца ў вайсковым зрэзе рэчаіснасці.

І толькі, відаць, сённяшні час павінен быў надысці, каб у далёкім ад Беларусі Казахстане падпалкоўнік Станіслаў Суднік (беларускі па духу афіцэр!) пачаў пісаць трывожную споведзь часу:

**Гіне мова, прападае,**
**На ратунак кліча нас.**
**Я Пагоню аб'яўляю**
**За яе! У сёдлы! Час!**

Шырокаму колу чытачоў Судніка-паэта адкрыла чацвёртая кніжка «Полымя» за сёлетні год. Пятнаццаць часопісных старонак, дваццаць тры вершы, пяцьсот пяцьдзесят паэтычных радкоў... Лічы, што зборнік. І гэта ў «Полымі», каторае майстроў не заўсёды такім аб'ёмам прадстаўляе!

Чым захапляе, прываблівае, адрывае ад жыццёвай мітусні шчырая паэзія Судніка? Няўжо — просталінейна-публіцыстычнай спавядальнасцю? Час жа перабудовы гэтулькі нам актуальна надзённай паэзіі падараваў, што след і прызвычаіцца.

**Мы маўчалі ў адчаі зацятым**
**І гарэлкай туманілі зрок,**
**Пакідалі мы вёскі і хаты**
**Дзеля пыльных бясконцых дарог.**

Унікальнасць вершаў Судніка — у паяднанні надзённасці з пафасам, у захапленні мітынговых адценняў у размове нават пра тое, пра што ва ўсе вякі спрачацца лепей сам-насам. Чытаю ў Судніка:

**А чым лепшыя мы, хто на службе сягоння,**
**Што мы робім, каб ты, Беларусь, расцвіла?**
**Кожны з нас для цябе—той далёкі наёмнік,**
**І жывеш ты без нас, як дагэтуль жыла.**

Чытаю і думаю-мяркую пра свой «Казахстан». Відаць, ён не толькі ў вайскоўцаў. Але ў нейкай ступені і ў кожнага з нас. Колькі мы ўсяго недадалі, недаплацілі роднай маці-Беларусі?! І пасля гэтага спакойна выслухоўваем чужародныя абвінавачванні ў нацыяналізме. Захоплена пазіраем у бок японскіх астравоў. А самі таго прызнаць не хочам, што цуды свае — эканамічныя, прамысловыя — японцы здзейснілі, дзякуючы нацыяналізму.

**Ляціць над краем вечная Пагоня,**
**Яна нас кліча ў шчыльныя шыхты,**
**Калі ў рады не ўстанеш, браце, сёння,**
**То заўтра юдаю ўжо будзеш ты.**

Так, гэта выходзіць за межы звыклай эстэтычнай традыцыі. Але ж менавіта гэтыя радкі вяртаюць да іншых традыцый, да першаасноў беларускай паэзіі, калі Я. Купала, Я. Колас, Цётка, М. Багдановіч дэкламавалі ўсенародныя боль і гнеў. Вершы С. Судніка, надрукаваныя ў «Полымі», напісаны ў 1988—1991 гадах. Не ведаю, ці займаўся «казахстанскі» падпалкоўнік і раней паэзіяй, але хацеў бы заўважыць вось што. 1988 год — адметны... Якраз тады пачаў выяўляцца масавы, усеагульны ўздым свядомасці многіх і многіх людзей. Відаць, штуршок асобай сілы атрымаў і беларускі афіцэр з Прыазёрска. Гаворачы пра пазіцыю С. Судніка ў вершах, нельга некалькі слоў не сказаць і пра тое, што паэт ужо колькі гадоў назад стварыў у Казахстане суполку ТБМ імя Ф. Скарыны, распачаў выданне «нефармальнай» газеты «Рокат» (ці не яго варта лічыць першынцам сучаснага беларускага вайсковага друку?). Ды і рух Беларускага згуртавання вайскоўцаў нараджэнню свайму шмат у чым абавязаны Прыазёрску і, канешне ж, Станіславу Судніку. А яшчэ ж у Казахстане (зусім нядаўна і ў Цвяры) афіцэр-паэт арганізаваў беларускую нядзельную школу, дзе дарослыя і дзеці маюць магчымасць вывучаць родную мову і літаратуру. Вось бы такіх афіцэраў ды паболей на Беларусі! Упэўненых, з разуменнем, што калі не яны, то хто?!

**Нам няведамы страх у баі,**
**Мы забылі каханых сваіх,**
**На шчытах толькі вольнасць у нас,**
**Вораг падае ніц пад мячамі.**
**Нам не страшны ні суд і ні час,**
**У нас крылы даўно за плячамі.**

Калі б гэткай жа інтанацыяй ды і пра нешта іншае, то ўсё ўспрымалася б інакш, — хутчэй, як голая дэкларацыя, а мо і горш таго, як артыстычная, тэатралізаваная публіцыстыка. Дык што—ратуе тэма? І так, і не зусім так. Да тэмы можа быць розны падыход. Як і розны ўзровень шчырасці, самаацэнкі. У вершах Станіслава Судніка планка гэтага ўзроўню сягае даволі высока. Паэт імкнецца ўмясціць ледзьве не ў кожным з твораў шматграннасць. Сусвет чалавечых думак. Афіцэра турбуе, непакоіць дэнацыяналізацыя нацыі, поўная адсутнасць гістарычнай самасвядомасці (вянок санетаў «Наш Грунвальд»; у «Полымі» падаецца толькі частка твораў).

Творчасць Станіслава Судніка — унікальная, неардынарная з'ява. І шкада, што вядома яна пакуль не надта шырокаму колу чытачоў і адной усяго ўвогуле падборкай, хаця і даволі ёмістай.

Захапляе, радуе мова беларускага афіцэра-паэта. Многія словы (асабліва з вершаў гістарычнай тэматыкі) — быццам жывая ілюстрацыя да мінуўшчыны. «Пяць **страцілаў** з далёкай краіны», «Здабылі яны **дзідамі** долю», **«Вытнем** разам, магутна, зацята», **«Таўкавіска** ад зброі ззяе»...

Багатая паэзія Судніка і на прысутнасць шматколерных мастацкіх сродкаў. Найперш — трапных параўнанняў, яскравых эпітэтаў.

І ўсё ж галоўнае, што сёння ўзносіць на небасхіл зорку паэзіі беларускага афіцэра, — вось у гэтых радках:

**У тым нашым апошнім баі,**
**Колькі б злыдням ні рвацца, ні пяцца,**
**Мы патонем у моры крыві,**
**А назад ні адзін не падасца.**
**Не саступім ні пядзі зямлі**
**І ні слоўца радзімае мовы,**
**Мы сцягі не на жарт паднялі,**
**Не на дзень мы скідалі аковы.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,**

## ВЫДАННІ ТБМ




## СЛОЎНІЧАК ЯНКІ СТАНКЕВІЧА

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарына каторы ўжо раз пацешыла сэрцы тых, хто любіць роднае слова, выпусціўшы ў свет «Маленькі маскоўска-беларускі (крывіцкі) слоўнічак» Янкі Станкевіча. Імя вучонага невядома шырокаму колу чытачоў на Бацькаўшчыне, бо яно амаль што не згадвалася ў савецкі час. Яго кніг было не знайсці ў бібліятэках — яны або знішчаліся, або былі глыбока схаваны ад вачэй цікаўнага чытача.

Фразеалагічны слоўнічак, які змяшчае прыказкі, а таксама прывітанні ды зычэнні, быў складзены аўтарам з мэтай адвучыць беларусаў ужываць рускія прыказкі даслоўна, а замест гэтага прыпомніць «адпаведную прыказку ці спецыфічную фразу крывіцкую». Вядома, адвучыць беларуса ад таго, да чаго ён прывык і, бадай што, лічыць сваім, наўрад ці ўдасца так хутка, але пазнаёміцца са слоўнікам варта. Чытаеш і думаеш: якую прыгажосць мы згубілі.

# КАПІТАН БРЫГА «МЕРКУРЫЙ»

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).

У 1823 годзе «Саперн̂ік» вылучаецца ў марскіх бітвах і пры ўзяцці крэпасцяў Анапа і Варна. Пра камандзіра брыга Казарскага на флоце пачынаюць гаварыць як пра асобу, якая з любой сітуацыі можа знасці выйсце, развіць поспех і дабіцца перамогі.

Калі паўстала пытанне, каго накіраваць на разведку турэцкай эскадры, то адмірал Грэйг і камандзір лінейнага карабля «Азоў» віцэ-адмірал Лазараў прыйшлі, не згаворваючыся, да адзінага меркавання — Казарскага. Яго прызначаюць камандзірам брыга «Меркурый», на ўзбраенні якога знаходзілася 18 устарэлых пушак.

Тут я трошкі адхілюся, каб даць гісторыю брыга «Меркурый». Як сведчыць «Военно-Морской Словарь», у гісторыю нашай славы на водах увайшло іх 2. Першы з іх на Балтыйскім моры, ён меў на ўзбраенні 24 пушкі. У руска-шведскай вайне (1788–1790) захапіў шведскі тэндэр «Снопуп», прымусіў здацца 44-пушачны фрэгат «Венус», удзельнічаў у Рэвельскім марскім баі ў 1790 годзе. Другому толькі наканавана было вылучыцца і ўвайсці ў бяссмерце. Пунктам адліку подзвігу брыга «Меркурый» стаў бой 14 (26) мая 1829 года. Няхай усе беларусы свету захаваюць у сваёй памяці гэты дзень і год найвялікшай славы нашага земляка.

Вось што напісаў аб гэтым адзін з турэцкіх маракоў, удзельнік бессмяротнай дуэлі:

«Карабель Капудзін-пашы і наш уступілі з ім (брыгам «Меркурый». — М. М.) у гарачы бой, і — справа нечуваная і неймаверная — мы не змаглі прымусіць яго здацца. Ён змагаўся, адступаючы і манеўруючы з усім ваенным мастацтвам, так, што мы — сорам прызнацца — спынілі бой, між тым як ён, перамагаючы, працягваў свой шлях. Калі старажытныя і новыя летапісы сведчаць нам пра ўзоры храбрасці, то гэты апошні зацьміць усе іншыя, і сведчанне аб ім заслугоўвае быць накрэсленым залатымі літарамі ў храме славутасцей. Капітан гэты быў Казарскі, а імя брыга—«Меркурый».

Захапленне беспрыкладным гераізмам брыга «Меркурый» цяжка не падзяліць з турэцкім ваенным мараком. Так, капітан-лейтэнант А. Казарскі паказаў і праявіў усе лепшыя якасці баявога марскога афіцэра. І таму заняў пачэснае месца ў нашай гісторыі. А вось як у канцэнтраваным пераказе апісвае подзвіг «Меркурыя» В. Альшэўскі: «Першы помнік у Севастопалі ўвекавечыў бяспрыкладны гераізм брыга «Меркурый», які 14 мая 1829 года пад камандаваннем капітан-лейтэнанта Аляксандра Іванавіча Казарскага выйграў няроўны бой з двума турэцкімі караблямі. Чатыры гадзіны працягвалася жорсткая артылерыйская дуэль. Рускія камендоры прыцэльным агнём 18 невялікіх гармат прымусілі змоўкнуць 192 (! — М. М.) буйнакаліберныя варожыя гарматы. Нягледзячы на 22 прабоіны (шэсць з іх падводныя) і каля 300 пашкоджанняў у такелажы і ветразях, брыг сваім ходам вярнуўся ў Севастопаль. Загінула чатыры матросы, восем чалавек былі паранены, у тым ліку і камандзір карабля».

Калі мы гаворым аб славе «Меркурыя», то павінны сумленна сказаць і аб ганьбе. Разам з імі былі ў разведцы рускія фрэгат «Штандар» і брыг «Арфей», якія, убачыўшы турэцкія караблі, хутка зніклі з поля бою, забыўшыся на няпісаны закон: «Сам гінеш, а таварыша выручай».

Як мы бачым, другі «Меркурый» перасягнуў славаю свайго сабрата. Брыг быў узнагароджаны кармавым Георгіеўскім флагам, а ўсе да адзінага члены экіпажа адзначаны ўзнагародамі. У гонар славутай падзеі быў выбіты памятны медаль.

Капітан-лейтэнант А. Казарскі быў узнагароджаны ордэнам Георгія 4-й ступені. Яму таксама было прысвоена воінскае званне на адну ступень вышэй — капітан 2-га рангу. Адважнаму марскому афіцэру была яшчэ прызначана пажыццёвая пенсія, роўная двум яго ранейшым штомесячным акладам.

У 1829 годзе А. Казарскі камандуе фрэгатам, у 1831-м годзе яму прысвойваюць званне капітана 1-га рангу. У промнях славы доблеснага марака наважыўся пагрэцца нават сам імператар Расіі Мікалай І, ён прызначыў яго ў сваю світу.

Але раны не даюць спакою марскому афіцэру. І ва ўзросце трыццаці шасці гадоў герой руска-турэцкай вайны (1828—1829) капітан 1-га рангу А. Казарскі памірае 16 (28) чэрвеня 1833 года.

...Гартаю кнігі аб Севастопалі і звяртаю ўвагу на такую дэталь: экскурсія «Скульптурныя помнікі Севастопаля» пачынаецца менавіта з помніка Казарскаму, хоць у горадзе марской славы былі і ёсць больш прыкметныя людзі і больш буйныя манументы. І гэтыя прозвішчы, і гэтыя манументы ва ўсіх на слыху і навідавоку. Ды нечым і сёння ўзрушвае розум і пачуцці людзей гераічны подзвіг Аляксандра Казарскага і яго маракоў.

...З таго часу на Чарнаморскім флоце заўсёды быў і ёсць ваенны карабель «Памяць Меркурыя».

**Міхаіл МАЛІНОЎСКІ.**

# МАРЫ ЗБЫВАЮЦЦА І НЕ ЗБЫВАЮЦЦА...

Вось і закончана камплектаванне алімпійскай каманды СНД. Федэрацыямі, трэнерскімі саветамі названы спартсмены, якія паедуць у Барселону.

Як заўжды, вялікую колькасць месцаў у зборнай былога Саюза «забраніравалі» прадстаўнікі Рэспублікі Беларусь: іх каля шасцідзесяці. У гэтым спісе і чэмпіёны мінулых гульняў, і навічкі, якія змаглі вытрымаць сур'ёзную канкурэнцыю з боку знакамітых сапернікаў у час перадалімпійскіх стартаў.

А гэта канкурэнцыя была вельмі сур'ёзнай, і не ўсе яе змаглі вытрымаць. Мы разлічвалі, што ў Барселону паедзе алімпійскі чэмпіён мінчанін Камандар Маджыдаў (грэка-рымская барацьба). Але яму з марай прыйшлося развітацца, калі ў рашаючым паядынку наш спартсмен усяго за 10 секунд да канца схваткі прайграў адзін бал растаўчаніну Саламу Дакучыеву.

Другі прыклад яшчэ больш крыўдны. Не паедзе ў Барселону і дыскаболка з Мінска Эліна Зверава. І вінавата ў гэтым толькі яна сама: у час адказных спаборніцтваў прымала допінг. Праўда, Эліну замяніла ў камандзе СНД яе зямлячка Ірына Ятчанка.

А гэты выпадак можна лічыць унікальным. На іспанскіх гульнях таэквандо будзе паказальным. Хаця і ў гэтым відзе пройдуць спаборніцтвы, мацнейшыя атрымаюць залатыя, сярэбраныя і бронзавыя ўзнагароды. Унікальнасць жа ў тым, што зборную СНД могуць скласці толькі... беларусы.

— Могуць, — гаворыць старшы трэнер зборнай Садружнасці, заслужаны трэнер Рэспублікі Беларусь Аляксандр Боткін, — калі знойдуцца 8 тысяч долараў, знойдуцца спонсары. Вы ўяўляеце, якую рэкламу нашай Беларусі зробяць тады нашы хлопцы і дзяўчаты ў гэтым відзе спорту! Каб у зборнай былі прадстаўнікі толькі аднай рэспублікі, такое яшчэ не здаралася.

Напэўна нашым чытачам будзе цікава даведацца, хто з вядомых спартсменаў Беларусі паедзе ў Барселону. Назавём некалькі імёнаў, чые поспехі здзіўлялі і радавалі сэрцы аматараў спорту: Аляксандр Курловіч, Леанід Тараненка (цяжкая атлетыка), Віталь Шчэрба, Святлана Багінская (гімнастыка), Ігар Астапковіч, Наталля Шыкаленка, Таццяна Ледаўская (лёгкая атлетыка), Ірына Шылава (стральба)... Імёнаў вядомых многа, прадстаўнікі ўсіх абласцей Беларусі. Кожны з іх рэальны прэтэндэнт на алімпійскае золата. Хаця чаму толькі ўжо вядомыя могуць разлічваць на перамогу?

Старты зімніх Гульняў паказалі, што і маладыя спартсмены часам робяць сюрпрызы, як гэта зрабіў у Альбервілі мінчанін, біятланіст Яўген Рэдзькін. Там наш зямляк заваяваў залаты медаль.

Асабліва мы разлічваем на навічкоў у лёгкай атлетыцы: Эдуарда Хамяляйнена, Таццяну Шэўчык, Ірыну Ятчанка і іншых, хто ўпершыню будзе ўдзельнічаць у Алімпійскіх гульнях.

Больш за ўсё ў зборнай СНД ад Беларусі ў Барселоне будзе весляроў — 17 чалавек; менш — у конным спорце і тэнісе: усяго па 1 чалавеку.

Алімпіяда стартуе літаральна днямі. Так што будзем чакаць добрых вестак з Іспаніі.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

# У ПАМЯЦЬ АБ ПЕСНЯРУ

Міністэрства сувязі былога СССР некалькі разоў адзначала юбілеі народнага паэта Беларусі Я. Купалы выпускам паштовых сувеніраў. Першым паштовым выпускам пра Я. Купалу быў мастацкі канверт, выдадзены ў 1957 годзе, да 75-годдзя з дня нараджэння паэта. На малюнку гэтага канверта быў паказаны помнік, які ў 1953 годзе быў устаноўлены ў скверы ля Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра, што носіць імя паэта (скульптар З. Азгур). Сёння гэты канверт карыстаецца асаблівым попытам у філатэлістаў: помніка ж гэтага ўжо даўно няма ў Мінску. У 1972 годзе ён быў перанесены на радзіму паэта, у мемарыяльны запаведнік «Вязынка». У тым жа 1957 годзе была выпушчана паштовая марка малога фармату з партрэтам Я. Купалы, у акаймаванні беларускага арнаменту. Пад партрэтам — кнігі паэта, даты жыцця і смерці і надпіс: «Выдатны беларускі паэт Янка Купала».

Цікавай з'явай у філатэліі былога Саюза стала марка ў гонар 80-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа. Да юбілеяў народных паэтаў была выпушчана адна мініяцюра, на якой змешчаны два партрэты. Да гэтай даты пошта выдала канверты з партрэтамі паэтаў. У дні Купалаўскага юбілею на мінскім паштамце прымянялася спецыяльнае гашэнне карэспандэнцыі памятным штэмпелем. У яго малюнку быў партрэт Я. Купалы, кнігі і юбілейны надпіс «80 год з дня нараджэння Янкі Купалы. 7.VII. 1962. Мінск. Паштамт».

Найбольшая колькасць паштовых матэрыялаў пра Я. Купалу была выпушчана ў юбілейны 1982 год, да 100-годдзя з дня нараджэння паэта. Пошта выпусціла мастацкі канверт з




партрэтам Я. Купалы, авіяпаштоўку з арыгінальнай маркай. На паштоўцы змешчаны партрэт паэта на фоне Літаратурнага музея Янкі Купалы ў Мінску, пабудаванага на месцы дома, які згарэў у першыя дні вайны, дзе ў 1927—1941 гадах жыў паэт. Хачу адзначыць, што ў 1966 годзе быў выдадзены мастацкі канверт, на малюнку якога быў адлюстраваны будынак Літаратурнага музея Янкі Купалы (сам музей быў заснаваны ў 1945 годзе, у новае памяшканне пераехаў у 1959-м). Чамусьці здарылася так, што ў Беларусь была завезена толькі малая частка тыражу гэтага выпуску, і сёння канверт з музеем ёсць не ў кожнага філатэліста, які цікавіцца беларускай тэматыкай. Але вернемся да юбілейнага выпуску паштоўкі. На яе арыгінальнай марцы скульптурнае адлюстраванне паэта і юбілейны надпіс «100 год з дня нараджэння Янкі Купалы». Увесь малюнак маркі заключаны ў рамку з беларускага арнаменту. У паштовае абарачэнне картка была ўведзена ў Маскве 15 чэрвеня 1982 года, тады ж там было праведзена спецгашэнне «Першы дзень». У малюнку штэмпеля — ліра, гусінае пяро, аркушы паперы і тэкст «100 год з дня нараджэння Янкі Купалы. Першы дзень. Масква. Паштамт. PREMIER JOUR», а ў дзень юбілею на мінскім паштамце праводзілася гашэнне юбілейным штэмпелем з тэкстам: «100 год з дня нараджэння Янкі Купалы. 07.07. 1982. Мінск. Паштамт». На штэмпелі малюнак раскрытай кнігі, факел, гусінае пяро і фрагменты беларускага арнаменту.

На жаль, філатэлісты, якія дэманструюць свае калекцыі пра Беларусь на выставах, не маюць магчымасці расказаць аб шматгранным жыцці і творчасці паэта. Пошта былога Саюза не адлюстравала ні Вязынскі мемарыяльны комплекс — радзіму Я. Купалы, ні цудоўны помнік у Мінску работы А. Анікейчыка. Хаця просьбы аб такім паштовым выпуску — марцы або канверце — неаднаразова пасылаліся ў Міністэрства сувязі рэспублікі. Ніяк не адлюстравана ў паштовых выпусках работа Я. Купалы ў газеце «Наша ніва», творчасць паэта, і многае іншае. Марай многіх філатэлістаў Беларусі з'яўляецца паштовы выпуск, які б паказаў помнік Я. Купалу ў Араў-парку ў Нью-Йорку (скульптар Анікейчык).

Усіх нас, філатэлістаў рэспублікі, сёння не пакідае надзея, што пошта суверэннай Беларусі ўспомніць філатэлістычныя праблемы не толькі ў купалаўскай, але і ў іншых філатэлістычных тэмах, што тычацца Беларусі.

**Леў КОЛАСАЎ.**

## УПЕРШЫНЮ Ў МІНСКУ

Міжнародны семінар па амерыканскаму таэквандо ўпершыню на беларускай зямлі прайшоў у Мінску. Вялікае свята баявых мастацтваў стала прыкметнай падзеяй яшчэ і таму, што на яго прыбыў сам грандмайстар Джун Ры.

Амерыканец карэйскага паходжання, які заваяваў у 1976 годзе тытул «Чалавека стагоддзя ў галіне баявых мастацтваў», па праву лічыцца бацькам амерыканскага таэквандо. У свой час ён быў інструктарам Махамеда Алі і Бруса Лі. Але Джун Ры стваральнік не толькі новага віду баявых мастацтваў, а і цэлай філасофіі, дзякуючы якой ён змог дасягнуць і гармоніі ўнутры сябе, і грамадскага прызнання, і матэрыяльнага дабрабыту. Ён з'яўляецца членам прэзідэнцкага савета ЗША па прафесійнаму навучанню, жыве ў прэстыжным раёне Арлінгтон у Вашынгтоне.

Джун Ры правёў сустрэчу ў Акадэміі фізічнай культуры. Рэктарат гэтай навучальнай установы прыняў рашэнне прысвоіць майстру званне ганаровага доктара акадэміі. Нацыянальны алімпійскі камітэт рэспублікі, натхнёны візітам амерыканскага госця, плануе стварыць федэрацыю гэтага віду баявых мастацтваў у Беларусі.

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ



Мой дедушка **ПИЛИПЕНКО Максим** уехал в США в 1917—1918 годах вместе с женой **Прасковьей** и детьми: **Александром, Фросей и Еленой, Ольгой** и ее мужем **Веремеем.** Мой отец **ПИЛИПЕНКО Леон Максимович** и его сестра **Кристина,** имея свои семьи, остались в Белоруссии. Теперь их нет в живых. С нами до войны и после переписывалась тетя Фрося, последнее письмо от нее получено в 1982 году.

Известно, что у Ольги и Веремея было трое детей (возможно, кто-то носит фамилию Пилипенко). У Елены, которая может быть еще жива, тоже трое детей, как и у Фроси **(Володя** и **Александр** носят фамилию **РУСАК).**

Мне 58 лет, нахожусь на пенсии, но продолжаю работать, ибо трудно прожить. Имею двоих сыновей и две внучки. Живу без мужа 18 лет, болею сахарным диабетом, аллергией. Но не обо мне речь. Мои внучки нуждаются в питании, витаминах, одежде. Я взываю к милосердию и чувству сострадания моих американских родственников и очень прошу их откликнуться. Вот их адреса:

Walier RUSAK,
453 Pavamus Rd,
Pavamus, New Jersey,
07652, USA

Helen ANTONICELLI,
655 Drexel Rood,
Pavamus, New Jersey,
07562, USA

**ПИЛИПЕНКО Надежда Леоновна.**

Всех, кому что-либо известно о родственниках **Надежды ПИЛИПЕНКО,** просим сообщить в редакцию нашей газеты по адресу:

Беларусь, 220005, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44, рэдакцыя газеты «Голас Радзімы».



Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1332.
Падпісана да друку 20.07.1992.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12